НАР-КАМ-ЗЕМЛЯРОБСТВА БССР.

# ПЛУГ








1927
МЕНСК

САКАВІК

№ 3

# Зьмест.



1-ая Дзяржаўная друкарня. Зак. № 1724. Галоўлітбел № 24860.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-популярная сельска-гаспадарчая часопісь.

III год выданьня | Сакавік 1927 г. | № 3

## Больш сялянскай актыўнасьці.

Сучасны тэмп перабудовы нашай сельскай гаспадаркі нельга прызнаць здавальняючым. Калі мы так марудна будзем вясьці рэарганізацыю (перабудову) сельскай гаспадаркі, дык нашым сялянам прыдзецца яшчэ дзясяткі гадоў знаходзіцца ў цяжкім становішчы. *І тут трэба зазначыць, што і сярод саміх сялян назіраюцца дрэнныя настроі, паводле якіх усю перабудову кожнай гаспадаркі дзяржава павінна праводзіць за свой кошт.* Па такіх выдумках выходзіць, што селяніну, як быццам, ні аб чым ня трэба рупіцца, бо аб ім клапаціцца дзяржава. Такі настрой неабходна хутчэй зьнішчыць; без актыўнага ўдзелу шырокіх колаў сялян мы росквіту сялянскай гаспадаркі не даб'емся. Мы праводзім за кошт дзяржавы толькі некаторыя галоўныя мерапрыемствы, без якіх нельга рэарганізаваць вёску. Уся-ж галоўная праца па перабудове сельскай гаспадаркі павінна праводзіцца самім сялянствам. Нашы некаторыя сяляне прывыклі спадзявацца на каго-небудзь і ў гэты час самі ніякіх крокаў да палепшаньня гаспадаркі ня прымаюць.

Здаецца, пара ўжо пераканацца ў тым, што „шчасьце", як сьнег з неба ня зваліцца, калі мы яго самі не пабудуем. І ў сёлетнюю сельска-гаспадарчую кампанію сялянству трэба праявіць больш сваёй уласнай актыўнасьці, каб дабіцца большага пасьпеху ў рэарганізацыі сельскай гаспадаркі. Як ні шырокі мерапрыемствы дзяржавы па сельскай гаспадарцы, але-ж мы ня зробім і аднэй тысячнай часткі той працы, якую правядзе само сялянства. Загэтым, посьпех с.-г. кампаніі галоўным чынам будзе залежаць ад саміх сялян.

Дзяржава распрацавала плян па земляўпарадкаваньню, мэліорацыі, культуртэхніцы, агрымерапрыемствах, жывёлагадоўлі, торфараспрацоўках і іншае.

*Але-ж размах іх і шырыня будуць залежаць ад таго, наколькі нашы мерапрыемствы абрастуць мерапрыемствамі самаго сялянства. Такім чынам, галоўнае ў сельска-гаспадарчай кампаніі я лічу ініцыятыву, актыўнасьць і арганізаваную самадзейнасьць самаго сялянства, якую нашым зямельным установам трэба, як мага, шырэй і глыбей ускалыхнуць* і пад нашым кіраўніцтвам скарыстаць на рэарганізацыі сельскай гаспадаркі. Разам з гэтым, бязумоўна, трэба зьвярнуць асаблівую увагу на дапамогу бядняцкім гаспадаркам, як тэхнічным іх абслугоўваньнем, таксама і крэдытам. Тут трэба максімум (найбольш) нашай увагі, бо без гэтай дапамогі некаторыя з іх ня маюць ніякай мажлівасьці падняць свае гаспадаркі.

А Дзяржавай да сельска-гаспадарчай кампаніі загатоўлена больш-менш здавальняючая колькасьць машын, прылад, угнаеньня, насеньня і іншых сродкаў вытворчасьці. Разьмеркован і рассылаецца грашовы крэдыт.

Такім чынам, справа з боку падрыхтоўкі як быццам на поўным ходзе. Трэба толькі мясцовым установам і органам практычна і своечасова ажывіць плян і максімальна скарыстаць сельска-гаспадарчую кампанію для *шырокай організацыі інтэнсыўнага і культурнага земляробства* з яго шырокім і вытворчым коопэрыраваньнем сельскай гаспадаркі.

Таксама асаблівую увагу трэба зьвярнуць на мобілізацыю ўсіх сродкаў самаго сялянства, разумеючы пад гэтым, як грашовыя, так і матар'яльныя сродкі (насеньня, прылады, машыны, усякіх племянікоў па жывёлагадоўлі і інш.).

Неабходна падкрэсьліць і яшчэ адну задачу—гэта загатоўка насеньня да наступнай сельска-гаспадарчай кампаніі, асабліва такога, як канюшына, выка, сэрадэла, лубін, сартавы авёс, ячмень, бульба, кармавыя караньплоды і інш. Гэту задачу магчыма вырашыць праз організацыю насеннаводных таварыств і кантрактацыі насеньня ў асобных гаспадарках; на гэта будзе пераведзен спэцыяльны крэдыт на выдачу задаткаў на гэта насеньне. *Аграномы і зямельныя працаўнікі на мясцох павінны дабіцца таго, каб кожны раён і сельсавет к наступнаму году меў на месцы ўсё неабходнае яму насеньне.*

Як мага шырэй у гэтым годзе трэба популярызаваць пасеў кармавых караньплодаў, на якія ў мінулым годзе было вялікае запатрабаваньне.

Да гэтага часу культура кармавых караньплодаў, была ў загоне і на-жаль нашы аграномы не зьвярталі увагі на яе пашырэньне.

Між іншым яна павінна дапамагчы нам вырашыць наш хронічны (пастаянны) кармавы крызіс і гэтым самым паставіць нашу жывёлагадоўлю на шлях шырокага разьвіцьця.

*Праз шырокую організацыю сялянскай ініцыятывы разгортывайце рэорганізацыю і перабудову сельскай гаспадаркі, пашырайце ў ёй элемэнты культуры, інтэнсыўнасьці і коопэраваньня.*

**З. Прышчэпаў.**

**Таварышы ляснічыя, аб'езчыкі, лясьнікі!** З 1927 г. часопісь „Плуг" дае значна больш месца Лясной гаспадарцы, бо лясы ў балянсе народнай гаспадаркі маюць вялікае значэньне.

*Чытайце, выпісвайце і пішэце ў „Плуг"! Організуйце ў кожным лясьніцтве прыём падпіскі на „Плуг"!*

У наступным нумары аддзел лясной гаспадаркі будзе прызначаны „Дню Леса" *(Рэд.)*.

# ДЗЯРЖАЎНАЯ ДАПАМОГА ВЁСЦЫ

## Насенная справа да пасеўкампаніі.

Наколькі своечасова і па сходнай цане будзе дастаўлен насенны матар'ял селяніну, настолькі ён зможа ажыцьцявіць пашырэньне кармовага кліну, палепшыць жывёлагадоўлю і павысіць таварнасьць сваёй гаспадаркі.

Разьмер плянавай насеннай патрэбы насельніцтва, неабходнасьць разьмяркаваньня і завоз насеньня ў раёны да пачатку бяздарожжа цьвёрда азначаны належнай пастановай Саўнаркому.

Вось чаму зараз тэмпу загатовак насеньня трэба надаваць асаблівую увагу.

Канюшына—галоўная расьліна пры арганізацыі шматпольля. Плянавая патрэбнасьць яе, ня лічачы насеньня самаго насельніцтва, устаноўлена ў 29.000 пуд. (насельніцтва ў 1926 г. мела свайго насеньня 45 т. пуд.). На 1-е сакавіка паступіла на склады—

| | | |
|---|---|---|
| Цэнтраземсклада . . . . | 3475 пуд. | (20,7 проц. плянавай лічбы) |
| Белсельсаюза . . . . . . . | 3750 „ | (29 3 „ „ „ |
| Усяго . . . | 7225 пуд. | (25,0 проц. плянавай лічбы). |

Чакаецца канюшына па дагаварох—Белсельсаюзам 5000 пудоў і Цэнтраземскладам—9000 пуд.

Загатоўка канюшыны на мясцох праходзіць даволі слаба. Усяго загатавана каля 4—5 тысяч пудоў. Калі спадзявацца на выпаўненьне дагавароў і ўзмацненьне закупак на мясцох, то запас насеньня канюшыны будзе 26—27 т. пуд., або 90—95 проц. плянавай лічбы.

Купля насеньня цімафейкі плянам разьлічана на 3.000 пуд., а паступіла ўжо да 2.000 пуд.

Значна горш стаіць справа з купляй насеньня выкі, сэрадэлі і лубіну. У мінулыя гады гэта насеньне цалкам куплялі на сваім рынку, а выку нават вывозілі з Беларусі.

На гэты год па 1-е сакавіка ход загатовак выкі, сэрадэлі і лубіну можа паказаць так:

| ЧАГО | Плянавая лічба | Паступіла на склады | Чакаецца па дагаворах |
|---|---|---|---|
| Выкі . . . . . | 9.100 пуд. | 60.000 п. | 20—25 т. пуд. |
| Сэрадэлі. . . . | 15.000 „ | 2.400 „ | 5—7 „ „ |
| Лубіну . . . . | 45.000 „ | 10.000 „ | |

Нізавой коопэрацыі неабходна ўсямерна ўзмацніць тэмп загатовак і паклапаціцца аб сваечасовым забясьпечаньні раёнаў насеньнем лубіну для насенных вучасткаў.

Насеньнем караньплодаў гаспадарка будзе забясьпечана поўнасьцю. Закуплена насеньня звыш 3½ тыс. пуд.

Сартовае насеньне ільна-даўгунца перавышае плянавую патрэбнасьць (9.000 пуд.). Загатоўка аўса, і ячменю асабліва мае значэньне для бядняцкага і серадняцкага насельніцтва вёскі.

Да гэтага часу Белсельсаюзам загатоўлена 170.000 пуд. аўса, а ў раёны завезена 140—145 т. пуд. Гэтага насеньня будзе мала.

Спэцыяльны Дзяржаўна-грамадзкі насенны фонд пры Камітэтах Узаемадапамогі да вясны магчыма удасца павялічыць да 300.000 пуд. (сродкі і насенныя запасы Камітэтаў, збор запазычанасьці мінулых гадоў і паявыя ўзносы).

На 1-е лютага ўсе раённыя Камітэты мелі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| аўса | звыш . . . | 120.000 | пуд. |
| ячменю | „ . . . | 8.000 | „ |
| грэчкі | „ . . . | 4.000 | „ |

За люты—сакавік м-цы мяркуецца загатаваць яшчэ 150—160 т. пуд.

Сартовага насеньня аўса Белсельсаюз меркаваў загатаваць 12.000 п., а ёсьць ўжо 5.000 пуд. сартовага аўса і ячменю.

Усяго магчыма сабраць і разьмяркаваць разам з пазычкамі мінулага году каля 15—20 тыс. пуд. сартовага аўса і ячменю.

Такім чынам, зараз абавязкова трэба дабіцца наступнага:

1) дабіцца безадкладнага выпаўненьня дагавароў на закупленае насеньне;

2) узмацніць на мясцох загатоўку насеньня канюшыны, выкі, сэрадэлі і лубіна;

3) праз Камітэты Узаемадапамогі ўзмацніць працу па збору запазычанасьці;

4) праз зем'органы ўзмацніць загатоўку і зварот запазычанага сартовага насеньня.

**М. Еўдакімаў.**

---

# Што прыдбаў Цэнтраземсклад да пасёўнай кампаніі.

Перабудова сельскай гаспадаркі з тэхнічнага і організацыйнага боку залежыць і ад таго, наколькі гэта гаспадарка выкарыстоўвае машыны, карыстаецца мінэральным угнаеньнем, сартовым насеньнем, пашырае травасеў і г. д.

Цэлы шэраг мерапрыемстваў Савецкай Улады ў гэтым кірунку значна дапамагае сельскай гаспадарцы. Штогодняе пашырэньне крэдыту для беднаты на куплю ўгнаеньняў, машын і насеньня адначасова агітуе і за лепшыя спосабы гаспадараньня.

Кожную вясну сялянства выяўляе вялікі попыт на differentознае насеньне, угнаеньне і г. д. Вось чаму нашым гарговым установам, як Цэнтраземсклад і Коопэрацыя, патрэбна траціць шмат працы на закупку і перакідваньне ўсяго гэтага ў акругі і раёны.

Зараз гэта праца на поўным ходзе, бо вясна не загарамі. Ідзе разгрузка вагонаў, завоз у акругі і раёны, праводзіцца закупка шмат чаго на сваім рынку і г. д.

Наколькі ўся гэта вагромністая праца праведзена зараз, пакажу ў некалькіх табліцах.

Завезена машын і прыладаў на склады акруг і раёнаў (на 1-III).

| | | | |
|---|---|---|---|
| Плугоў розных | 26953 шт. | Жняярак | 30 шт. |
| Асыпнікаў | 3077 „ | Малатарняў | 1584 „ |
| Барон | 6097 „ | Арфаў | 1874 „ |
| Сяўнікоў | 174 „ | Сячкарняў | 3620 „ |

Усяго на суму 1.247.853 р.

Таксама насеньня траў і лубіну:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Канюшыны | 6000 п. | Выкі | 3000 п. |
| Цімафейкі | 675 „ | Лубіну | 5000 „ |
| Сэрадэлі | 2100 „ | Насеньня кораньплодаў і гародніны | 1500 „ |

Усяго на суму 101.780 р.

Таксама мінэральных угнаеньняў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Супэрфосфату | 86118 п. | Калійнай солі | 12322 п. |
| Фасфарытнай мукі | 4392 „ | Салетры | 634,4 „ |
| Касьцяной мукі | 10614 „ | Тамасаўкі | 28182 „ |

Усяго на суму 151.975 р.

Найбольшага выкананьня пляна ўдалося дасягнуць у прыдбаньні с.-г. машын і прыладаў (60 проц.) і значна меншы процант выкананьня пляну даюць мінэральныя ўгнаеньні (36 проц.) і рознае насеньне (20 проц.).

Па гэтым двум галінам яшчэ ідуць загатоўкі, але мажліва, што поўнасьцю правесьці плян у жыцьцё і ня ўдасца.

Шмат якога насеньня, як лубіну, канюшыны, сэрадэлі прыдзецца закупіць сялянству і на мясцовым рынку.

Насеньне кораньплодаў і зараз ёсьць у здавальняючай колькасьці. Усе цэны паказаны на стар. 32.

Т.

---

# Разьмеры крэдыту сялянству і беднаце.

Бельсельбанкам на два першых кварталы ўжо разьмяркованы крэдыты бяднейшаму сялянству для больш пасьпешнага правядзеньня пасеўнай кампаніі. Крэдыты прызначаны на куплю с.-г. машын, насеньня траў, угнаеньняў і інш.

Апрача гэтых агульных крэдытаў, для беднаты вылучаецца яшчэ дадаткова спэцыяльны крэдыт у 288 тыс. руб.

Разьмеркаваньне гэтых крэдытаў па акругах паказана ў табліцы (у тыс. руб.)

| АКРУГІ | На травасеў | На куплю насеньня | На с.-г. машыны і пр. | На ўгнаеньні | Спэцыяльны крэдыт беднаце |
|---|---|---|---|---|---|
| Менская | 50 | 5 | 20 | 6 | 20 |
| Барысаўская | 27 | 10 | 18 | 5 | 35 |
| Бабруйская | 42 | 10 | 27 | 3 | 24 |
| Слуцкая | 17 | 5 | 20 | 3 | 16 |
| Мазырская | 15 | 8 | 19 | — | 33 |
| Віцебская | 75 | 5 | 29 | 40 | 16 |
| Полацкая | 57 | 7 | 25 | 18 | 45 |
| Аршанская | 60 | — | 29 | 10 | 24 |
| Магілеўская | 50 | 20 | 32 | 5 | 35 |
| Калінінскяя | 42 | 20 | 18 | 10 | 40 |
| Рэчыцкая і Гомельская | 65 | 10 | 43 | — | — |
| БССР | 500 | 100 | 280 | 100 | 288 т. р. |

Дзеля беднаты спэцыяльна 288 т. да красавіка.

# Агранамічная дапамога саўхозаў сялянскай гаспадарцы ў 1927 г.

Набліжаецца вясеньняя праца і кожны селянін павінен паклапаціцца ня толькі аб падрыхтоўцы свайго насеньня (ачыстка, сартаваньне пратручваньне), але і аб тым, што кепскае насеньне неабходна замяніць на лепшы сорт, бо чыстае сартовае насеньне павялічыць ураджай на 20—50 проц. Насеньне можна ачысьціць, замяніць ці купіць у саўхозах Беларусі.

Саўхозы маюць 59 трыэраў, 108 сартовак, 111 арфаў, на якіх ў 1927 годзе магчыма будзе ачысьціць і адсартаваць сялянскага насеньня 128.444 пуд.

Колькі будзе прадана і абменена насеньня, паказана ў табліцы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыта | 73462 пуд. | Канюшыны | 1645 пуд. |
| Пшаніцы | 4139 „ | Выкі | 2390 „ |
| Аўса | 19370 „ | Расады | 980200 „ |
| Ячменю | 5450 „ | Пладовых дрэў | 20455 „ |

Сельска-гаспадарчыя машыны і прылады сяляне таксама могуць папраўляць у саўхозскіх кузьнях і майстэрнях. Мяркуецца, што ў 1927 г. саўхозы так дапамогуць сялянству: будзе папраўлена плугоў—1800 шт., барон—700, жняярак—26, і іншых машын—574. Плата на 10-25 проц. ніжэй.

У саўхозах у сучасны момант маецца племянікоў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жарабкоў | 102 шт. | Быкоў | 201 шт. |
| Кныроў | 65 „ | Бараноў | 10 „ |

Да іх будзе прыпушчана сялянскай скаціны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Кабыл | 2123 шт. | Сьвіней | 1557 шт. |
| Кароў | 6172 „ | Авечак | 175 „ |

Плата за прыпусканьне каштуе да 50 кап. за карову і да 2-х руб. за кабылу.

Будзе прадана сялянам скаціны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Коняй | 137 шт. | Цялят | 1115 шт. |
| Жарабят | 28 „ | Сьвіней | 25 „ |
| Кароў | 130 „ | Парасят | 1059 „ |

Такім чынам, саўхозы ўжо маюць магчымасьць разводзіць сартовае насеньне, племяную жывёлу і перадаць яго ў сялянскія гаспадаркі. У далейшым з кожным годам гэта праца будзе ўзмацняцца і саўхозы будуць яшчэ больш дапамагаць сялянскай гаспадарцы.

**Т. Анціпенка.**

---

# Ліст селяніна А. Сыцько аб пасеўнай кампаніі. *)

Грамадзяне земляробы! Хутка наступае пасеўная кампанія запасіце насеньне выкі, пялюшкі, сэрадэлі, лубіну. Памятайце, што кожныя 4 пуд. пасеянай выкі пры ўборцы на сена даюць к зіме харошага сена на адну карову, а пры ўборцы на зярно выка дасьць салому лепшую за яравую.

Мука выкі і пялюшкі вельмі добра для прымешкі ў корм коням і каровам. Пялюшка добра і для зялёнага корму.

30—35 ф. пасеянай сэрадэлі дадуць вельмі добрага сена на галаву скаціны. Два-тры пуды лубіна пасеяныя на ўгнаеньне замяняюць гной ад аднэй каровы.

Лішні раз пераараць глебу—гэта значыць павысіць ураджай.

Усё напісанае мною праверана на вопыце на хутары „Лучкі“. За парадамі зьвяртайцеся да сваіх аграномаў ці да мяне. З прыемнасьцю буду расказваць вам, як лепш сеяць і інш.

**А. Сыцько.**

*) Ліст напісаны да сялян свайго раёну і Капаткевіцкім РВК перасланы ў рэдакцыю «Плуга». (Рэд.).

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Што трэба ведаць селяніну перад пасевам.

Пасеў не загарамі. Селяніну ўжо зараз трэба ведаць, якім насеньнем ён будзе засяваць сваё поле. Далёка ня кожны селянін уяўляе сабе, што ад якасьці насеньня, галоўным чынам, залежыць ураджай.

Якім-жа павінна быць добрае насеньне. Найперш за ўсё насеньне павінна быць усхожае. Упэўніцца ў гэтым можа кожны селянін сам. Дзеля гэтага трэба ўзяць талерку, насыпаць пяску альбо пухлае зямлі, змачыць вадою і разлажыць тут рэдка на паверхні 100 зярнят; затым прыкрыць тонкім слоем зямлі, асьцярожна змачыць і паставіць у цёплае месца; зямля ўвесь час павінна быць вільготнаю. Праз 10 дзён (для буракоў, морквы 14 дзён) можна падлічыць, колькі з 100 зярнят узышло. Калі узышло 95 шт., то, кажуць, што насеньне мае ўсхожасьць 95 проц. і лічаць яго добрым.



Арфа для ачысткі насеньня.

Калі-ж не праверыць перад пасевам усхожасьць насеньня, дык можа быць, што ўсходы будуць надта рэдкія і пасеў давядзецца пераворваць. Затым насеньне павінна быць чыстым ад сьмецьця і асабліва ад насеньня сьмецьцявых траў. Для гэтага насеньне трэба ачышчаць на веялках-сартоўках, а асабліва карысна прапусьціць насеньне праз трыэр. Буйнае і важкае насеньне дае значна большы ўраджай.

І ўрэшце, селянін павінен ведаць аб такой хваробе расьлін, як галаўня ці сажа. Насеньне пшаніцы напярэдадні пасева трэба абавязкова пратруціць. Ёсьць некалькі спосабаў пратручваньня, з якіх мы разгледзім адзін. Бярэцца 410 грамаў (1 фунт) фармаліну і разводзіцца ў 10 вёдрах вады (300 фун.). Гэтага раствору хопіць пратруціць насеньня на адзін гэктар. Ссыпаюць насеньне ў кучу і паліваюць растворам фармаліна, увесь час перамешваючы зярно. Потым шчыльна накрываюць кучу дзяругамі, каб пара фармаліна ахапіла ўсё зярно. Праз дзьве гадзіны зьнімаюць пакрышку і рассыпаюць зярняты тонкім слоем на сонцы альбо на ветры і прасушваюць, перамешваючы яго час ад часу, а потым сеюць.

**Є. Арабей.**

# Аб насеньні лёну.

Лепшым пасеўным насеньнем лёну лічыцца пскоўскі даўгунец і часткаю вяцкі. (Вяцкая губ. і Воцкая вобласьць), а таксама з Мышкінскага павету Яраслаўскай губ. Вось зачым з гэтых раёнаў прывозяць насеньне для распаўсюджваньня сярод сялян.

Карысьць ад прывознага насеньня можна адзначыць сярэднімі лічбамі—*ураджай валакна павялічваецца да 34 проц.*

Дзе глеба небагатая, дрэнна вырабляецца, там трэба заводзіць насеньне з Вяцкай губ. і Вяліжскага пав. Пскоўскай губ., на лепшых глебах лепш удаецца Мышкінскі даўгунец. Для канчатковых выкікаў штогодна трэба ставіць вопыты для параўнаньня мясцовага насеньня з прывозным.

Сёлета плянамі НКЗ прадугледжан завоз насеньня даўгунцу Пскоўскай і Вяцкай губ., каля 7000 пуд., ды часткаю будзе скарыстаны лішак леташняга году (каля 3000 пуд.); *усяго будзе распаўсюджана каля 10000 пуд.* У кожную з акруг: Віцебскую, Полацкую, Магілеўскую, Аршанскую і Калінінскую будзе—прывезена насеньня ад 1000 да 2000 п., а ў паўднёвыя акругі па 500 пуд. Цана насеньня павінна быць не даражэй 3 р. 50 к., пры чым пайшчыкам коопэрацыі насеньне будзе давацца ў крэдыт да 1 году.

**А. Шатэрнік.**

# Мінэральныя ўгнаеньні і ўраджай.

Заходнія краіны павялічылі свае ўраджаі шляхам ужываньня палепшанай апрацоўкі зямлі, увядзеньня травасеву, прымяненьнем мінэральных угнаеньняў. У нас-жа ў апошнія гады таксама адзінкі-гаспадары сталі на шлях павялічэньня ўраджаю: яны заводзяць шматпольле, сеюць кармовые травы, ужываюць палепшаны сельска-гаспадарчы інвэнтар і г. д. Але мала яшчэ гаспадарак, якія прымянялі-б мінэральныя ўгнаеньні. Паміж тым, узбагаціць нашы супескавыя глебы можна толькі прымяненьнем мінэральных угнаеньняў.

Як вядома, пасьля ваеннага часу цэны на мінэральныя ўгнаеньні амаль што павялічыліся ў два разы. З гэтай прычыны распаўсюджана думка, што пры ўнясеньні мінэральных угнаеньняў пад расьліны прырост ад іх не акупае страт на мінэральныя ўгнаеньні. Патрэбна сказаць, што такая думка неправільна. Калі ў даваенныя часы мінэральныя ўгнаеньні каштавалі менш, дык і зярно на рынку таксама расцэнівалася дзешавей. Напрыклад, да вайны пуд супэрфасфату каштаваў 60-70 кап., аўса—70-75 к.; цяпер-жа адзін пуд супэрфасфата каштуе 1 р. 20 к.—1 р. 30 к. і авёс—1 р. 20 к.—1 р. 30 к. Суадносіны паміж цэнамі не парушаны.

Карысьць прымяненьня мінэральных угнаеньняў ва умовах сялянскай гаспадаркі БССР пацьвярджаецца і вынікамі досьледаў паказальных вучасткаў.

Для прыкладу прыводзіцца табліца, якая паказвае ўплыў мінэральных угнаеньняў на ўраджай розных расьлін.

На супескавых глебах:

| Месца вучастка. | Расьліна. | Угнаеньне на дзесяціну. | Ураджай на дзес. | | Прыбаўка ўраджаю з дзесяц. | | Кошт угнаеньня на дзесяціну. | | Кошт прыбаўкі ўрадж. з дзесяціны. | | Чысты прыбытак з дзесяціны | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Зярна. | Саломы | Зярна. | Саломы | Р. | К. | Р. | К | Р. | К. |
| Пас. „Воўчы" Рагачэўск. р. гр. Кэпп | Жыта | Без угн. . . . | 27 | 99 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | 40 п. фасф. мукі | 50 | 148 | 23 | 49 | 20 | — | 35 | 40 | 15 | 40 |
| Журавіцкі р. Магілеўск. акр. | " | Без угн. . . . | 45 | 72 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | 18 п. супэр. . . | 64 | 143 | 19 | 71 | 21 | 60 | 38 | 90 | 17 | 30 |
| Хут. Кабанаўка Стрэшынскі р. Бабр. акр. | Авёс па бульбянішчы. | Без угн. . . . | 40 | 65 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | 20 п. супэрфасф. | 75 | 127 | 35 | 64 | 24 | — | 54 | 80 | 30 | 80 |
| | | 20 п. тамас. . . | 63 | 117 | 23 | 52 | 24 | — | 38 | — | 14 | — |
| Вёска Цэсарэвічы. Бялынкавіцк. р. | Авёс | Без угн. . . . | 40 | 50 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | 27 п. супэрф. . | 80 | 103 | 40 | 53 | 32 | 40 | 58 | 60 | 26 | 20 |
| Пас. Валасэвічы, Журавіцк. р. Магілеўск. р. | Авёс па ржышчу | Без угн. . . . | 34 | 48 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | 18 п. супэрф. . | 55 | 77 | 21 | 29 | 21 | 60 | 31 | — | 9 | 40 |
| | | 9 п. кал. солі . | 70 | 107 | 36 | 59 | 10 | 80 | 55 | — | 44 | 20 |
| Хут. Баеў, Прапойск. р. Магілеўск. акр. | Авёс | Без угн. . . . | 32 | 90 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | Гною 2400 пуд. . | 90 | 150 | 58 | 60 | 72 | — | 81 | 60 | 9 | 60 |
| | | 10 п. кал. солі . | 75 | 138 | 23 | 48 | 12 | — | 37 | 20 | 25 | 20 |
| | | 20 п. тамасаўкі . | 72 | 120 | 20 | 30 | 24 | — | 30 | — | 6 | — |
| | | 20 п. супэрф. + 10 п. кал. солі | 90 | 138 | 58 | 48 | 36 | — | 79 | 20 | 43 | 20 |
| Пас. Кудлачоўскі, Калінінск. акр. | Авёс па ржышчу | Без угн. . . | 40 | 90 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| | | 24 п. тамасаўкі . | 60 | 127 | 20 | 37 | 21 | 60 | 31 | 40 | 9 | 80 |
| | | 18 п. супэрф. . | 60 | 125 | 20 | 35 | 60 | 60 | 31 | — | 9 | 40 |

Асаблівае значэньне мае ў нашых умовах унясеньне мінэральных угнаеньняў пад бульбу і караньплоды, якія вымагаюць добра угноеных глебаў. Частку гною пад бульбу і караньплоды заўсёды можна замяніць мінэральным угнаеньнем. Карысьць прымяненьня мінэральнага ўгнаеньня пад караньплоды і бульбу паказваюць вынікі досьледаў паказальных вучасткаў, якія былі заложаны ў сялянскіх гаспадарках у 1926 г. (на суглінках).

| | Месца вучастка. | | Расьліна. | Угнаеньне на дзесяціну. | Ураджай з дзесяціны. | Прырост урадж. на дзес. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | У пудох. | |
| 1 | Хут. Няўдобны Краснапольск. р. Калін. акр. | Супесь | Бульба | Без угн. . . . | 1046 | — |
| | | | | 12 п. кал. солі . | 1485 | 439 |
| | | | | 50 п. попелу. . | 1282 | 236 |
| 2 | Віцебск. р. у гр. Багданава. | Супесь | " | Гною 1200 п. . | 660 | — |
| | | | | Гною 1200 п. + 9 п. кал. солі . | 903 | 243 |
| | | | | Гною 1200 п. + 11 п. супэр. . | 833 | 170 |
| 3 | Бярэзінскі р. Барысаўск. акр. ў гр. Лабача | Суглін. | Карм. буракі | Гной 2400 п. . | 2670 | — |
| | | | | Гной 2400 п. + 15 п. супэрф. . | 3165 | 495 |
| 4 | С.-г. гурток вёскі Дзьмітраўкі, Бярэзінск. р. | Супесь | " | Без угноеньня . | 600 | — |
| | | | | 17 п. супэрф. . | 1200 | 600 |
| | | | | 2400 п. гною . | 1588 | 988 |
| | | | | 2400 п. гною + 17 п. супэрф. . | 2929 | 2329 |
| 5 | Вёска Навасёлкі, Азарыцк. р., Мазырск. акр. | Суглін. | " | 2400 п. гною. . | 4400 | — |
| | | | | 18 п. супэрф. . | 3680 | — |
| | | | | 27 " . . | 3840 | — |
| | | | | 36 " . . | 4800 | — |

Такім чынам, вынікі паказальных вучасткаў яскрава сьведчаць аб карысьці мінэральнага ўгнаеньня. Зразумела, бываюць выпадкі, калі прырост не акупае поўнасьцю затраты на мінэральнае ўгнаевьне. Гэта здараецца на глебах спустошаных і ў дадатак дрэнна апрацованых. Каб мець менш памылак пры ўнясеньні мінэральных угнаеньняў, патрэбна раней вывучыць данае пытаньне на невялічкай плошчы, хоць




**Ураджай караньплодаў** у сел. Шалойкі Бярэзін. р. Барыс. акр. I—без угнаеньні, II—па гнаі, III—гной+16 пуд. супэрфасфату.

Таксама ў сел. Коваленкі (вёс. Паложына). I—без угнаеньня, II—14 п. супэрфасфату, III—2400 п. гною, IV—2400 п. гною+14 п. супэрфасфату.

бы шляхам закладкі паказальных вучасткаў. Вось чаму важна пашыраць сетку паказальных вучасткаў у наступную вясну. Недахоп аграномаў не дазваляе закладваць вучасткі ў гаспадарках кожнага пасёлку альбо вёскі. Тут патрэбна агранамічная дапамога з боку перадавых гаспадароў вёскі, культурнікаў, колхозаў і саўхозаў. Актыўная сялянская моладзь, як комсамольцы, павінны прыняць шчыры ўдзел у закладцы паказальных вучасткаў. Кожны культурнік, кожны комсамолец вёскі абавязаны залажыць паказальны вучастак ня толькі ў сваёй гаспадарцы, а дапамагчы і суседу залажыць паказальны вучастак.

Шырокі сялянскі досьлед дапаможа нашым дасьледчым станцыям хутчэй вывучыць пытаньне аб прымяненьні і пашырэньні мінэральных угнаеньняў у БССР, а гэта прыблізіць час падваеньня ўраджаю.

**П. Заяц.**

---

# Больш увагі караньплодам.

*(З вынікаў працы дасьледчых станцый).*

Пры жывёлаводным ухіле сельскае гаспадаркі Беларусі ні адна сялянская гаспадарка не павінна абыйсьціся без пасеву кармовых караньплодаў. Кожны селянін для аднае каровы павінен вырасьціць у гаспадарцы каля 160 п. тых ці іншых караньплодаў (па 30 фун. карове ў дзень на 212 дзён). Дзеля гэтага патрэбна для кожнай каровы пасеяць 192 кв. саж., калі лічыць сярэдні ўраджай з дзес. караньплодаў 2.000 пуд.

Караньплоднаму пытаньню на Беларусі трэба ўдзяліць значна больш увагі. Плошча пад караньплодамі ў нас яшчэ малая. Больш-менш караньплоды пашыраны толькі на Віцебшчыне ў латышскіх гаспадарках. У іншых мясцох аб іх мала і ведаюць.

*Якія разводзіць караньплоды.* З кармовых караньплодаў у нашых умовах разводзяцца турнэпс, буракі, бручка і морква. У паўночнай частцы Беларусі гэтыя караньплоды па ўраджайнасьці і якасьці ідуць прыблізна ў названым парадку, а на поўдні на пясчаных глебах морква бывае ўраджайней буракоў.

Новазыбкаўская дасьледчая станцыя на пяскох таксама ў першую чаргу раіць сеяць моркву, а потым турнэпс і бручку.

На Радомысльськай дасьледчай станцыі атрыманы такія ўраджаі.

| Колькасьць гною ў пуд. | Ураджай морквы ў пуд на дзес. | Ураджай буракоў ў пуд. на дзес. |
|---|---|---|
| 1200 | 900 | 438 |
| 2400 | 1276 | 631 |
| 3600 | 1762 | 802 |

Віцебская с.-г. дасьледчая станцыя ў 1926 г. ставіла досьлед на параўнаньне ўраджайнасьці буракоў (Экендорскія жоўтыя) і бручкі (Царскасельская) і прышла к выніку, што на *гароднай угноенай глебе буракі ўраджайней,* а ў полі—*ураджайней бручка.*

*Кармовыя буракі* патрабуюць добра апрацованай і ўгноенай глебы; іх лепш сеяць на гародных і прысялібных землях.

**Кормовае значэньне караньплодаў у адзінках.**




1. Канюшына чырвоная 2. Выка+авёс 3. Авёс зярно і салома 4. Кар. буракі. 5. Турнэпс 6. Кормовая морква.

*Турнэпс* самы скарасьпелы сярод усіх караньплодаў. Ён не патрабуе ўгноенай і глыбокай апрацоўкі глебы; яго можна позна сеяць нават да канца чэрвеня м-ца, а таксама яго можна сеяць і ў аржоньні пасьля прыборкі жыта. Для пачынаючых сеяць лепш заняцца турнэпсам. Адмоўныя яго бакі—слабасьць у лежцы, нізкі процант сухой масы і дрэнны прывкус малака, калі даваць яго жывёле ў значнай колькасьці.

Кармовая морква добра для корма, але для пачынаючых сеяць караньплоды нязручна: *асаблівы пасеў, поліва, прарываньне і г. д.* Пры лежцы морква лёгка загнівае.

*Кармовая бручка* добра расьце на сярэдня-угноенай глебе, не патрабуе глыбокай апрацоўкі глебы, лёгка прыбіраецца, добра захоўваецца і прымаецца калі садзіць расадаю. На яе селяніну трэба зьвярнуць увагу. Выбраць сорт караньплодаў кожны можа па выніках іх апрабаваньня станцыямі.

*Спрабаваньне сартоў кармовых буракоў.* Найбольш ураджайнымі па сырой і сухой масе з буракоў зьяўляецца экендорскія чырвоныя (для Меншчыны—жоўтыя), Арнім-Крывенскія і ўсе сарты тыпа Баррэс (чырвона-жоўты і інш.); з паўцукровых—белы, Вэйбуля ружовы і чырвоны.

Па даным Энгельгардаўскай дасьледчай станцыі (праф. Рэнард) буракі Экендорфскія, Арнім-Крывенскія ўдаюцца на мелкіх мала куль-



1. Бурак Арнім-Крывенскі.   2. Бур. Баррэс.



3. Турнэпс.   4. Кармовая морква.

турных глебах. *Сарты тыпа Баррэс* лепей удаюцца на больш багатых і больш глыбокіх глебах. Усе гэтыя сарты лепей садзіць флянцамі і пры далейшым доглядзе за імі трэба мець на увазе, што яны сядзяць мелка і лёгка вырываюцца з глебы. *Буракі паўцукровыя* патрабуюць культурнай, угноенай і ўспульхнёнай глебы. Гэтыя буракі трэба сеяць, а не садзіць флянцамі. Спрабаваньне сартоў турнэпсу паказана ў табліцы.

| НАЗВА САРТОЎ | Менск. с.-г. д. станц. | Горацкая с.-г. д. станцыя | | Энгельгардаўск. с.-г. дасьл. ст | | Ціміразеўская с.-г. Акадэмія | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ураджай каранёпл. у п. на дзес. | Урадж. на дзес. | | Урадж. на дзес. | | Урадж. на дзес. | |
| | | Карань-плодаў у пуд. | Сухой масы ў пуд. | Карань-плодаў у пуд. | Сухой масы ў пуд. | Карань-плодаў у пуд. | Сухой масы ў пуд |
| **А. Жоўтамясыя** | | | | | | | |
| 1. Педзігра-Бартфэльскі . . | — | 6991 | 620,8 | 3170,2 | 285,2 | — | — |
| 2. *Бартфэльскі* . | 2753,8 | 5048 | 573,9 | 3320,0 | 272,20 | 3182 | 306,7 |
| 3. Фінскі . . | — | — | — | -- | — | 3845 | 353,3 |
| 4. *Танкард*. . . | 2512,8 | 4498 | 560,4 | 1903 | 197,91 | 2650 | 244,86 |
| 5. Абердзінскі . | 1734,4 | — | — | — | — | — | — |
| 6. Жывы шар (раньні) . . | 2474 | — | — | — | — | — | — |
| 7. Грэй-Стон . | — | — | — | - | — | 3390 | 277,98 |

| НАЗВА САРТОЎ | Менск. с.-г. д. станц. | Горацкая с.-г. д. станцыя | | Энгельгардаўск. с.-г. дасьл. ст. | | Ціміразеўская с.-г. Акадэмія | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ураджай ко-раньпл. у п. на дзес. | Урадж. на дзес. | | Урадж. на дзес. | | Урадж. на дзес. | |
| | | Корань-плодаў у пуд. | Сухой ма-сы ў пуд. | Корань-плодаў у пуд. | Сухой ма-сы ў пуд. | Корань-плодаў у пуд. | Сухой ма-сы ў пуд. |
| **Б. Белыя** | | | | | | | |
| 8. Далес-гібрыд. . | — | 5348 | 517,68 | — | — | — | — |
| 9. *Остэрзундомскія* . . | — | 5447 | 513,1 | 2882,2 | 273,79 | 25,90 | 208,24 |
| 10. Маммут . . | 2426,6 | — | — | 2171,5 | 206,34 | — | — |
| 11. Шасьцітыднёв. | — | 5483 | 498,4 | — | — | 2412 | 192,96 |
| 12. Зялёнагаловы . | — | 5243 | 542,1 | 3640 | 420,7 | 2655 | 213,2 |
| 13. Чырвонагаловы | — | — | — | 3440 | 335,7 | 3722 | 314,88 |
| 14. Нарфольк. . | — | — | — | — | — | 3552 | 291,62 |

Такім чынам, з сартоў турнэпсу найлепшым па ўраджайнасьці будуць Бартфэльскі, які добра захоўваецца, а таксама Остэрзундомскі (трохі гаркаваты), Танкарт, зялёна-галовы і інш.

Спрабаваньне сартоў кармовай морквы.

| НАЗВА САРТОЎ | Менск. с.-г. дасьл. ст. | | Віцебская с.-г. дасьлед. станцыя | | Энгельгардаўская с.-г. д. ст. (сярэд. за 2 г.) | | Ціміразеўская с.-г. Акадэмія | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Урадж. з дз. у пудох | | Урадж. з дзес. у пудох | | Урадж. у п. на дзес. | | Урадж. у п. на дз. | |
| | Ко-рань-плод. | Батвы | Корань-плодаў | Батвы | Корань-плодаў | Сухой масы | Корань-плодаў | Сухой масы |
| 1. Доўг. аранжавая . . | — | — | 3898 | 1401 | 1785 | 310,5 | — | — |
| 2. *Белая Вагезская* . | — | — | 5620 | 2295 | 2223 | 284,8 | — | — |
| 3. *Белая доўгая зялёнагаловая* | — | — | 5012 | 2832 | 2896 | 452,3 | 2875 | 359,08 |
| 4. Лоберыхская цыліндрычная (жоўтая) . | 1033 | 217 | 3200 | 1600 | 3008 | 405,3 | 2370 | 269,47 |
| 5. Вэйбуля Супра . . | — | — | — | — | 2601 | 377,4 | — | — |
| 6. Крывенская . . | — | — | — | — | 24 6 | 360,1 | 2507 | — |
| 7. Каратэль . | 621,3 | 109 | — | — | — | — | — | — |

З гэтай табліцы мы бачым, што найлепшымі сартамі морквы будуць Белая зялёнагаловая, белая Вагэзская і інш.

Сортаапрабаваньне кармовай бручкі.

| НАЗВА САРТОЎ | Менская с.-г. дасьл. станцыя | | Горацкая с.-г. дасьлед. станцыя | | Віцебскі с.-г. дасьл. станцыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Урадж. у пудох на дзесяціну | | Урадж. у пудох на дзесяціну | | Урадж. у пудох на дзесяціну | |
| | Караньплодаў | Батвы | Караньплодаў | Сухой масы | Караньплодаў | Батвы |
| 1. Белая ад Вільмарэна . | — | — | — | — | 3008 | 1809 |
| 2. „ чырвонагаловая | — | — | — | — | 2615 | 1474 |
| 3. „ кароткалісьцявая | — | — | — | — | 2230 | 1743 |
| 4. Рутабага-чырвонагаловая . . . . | — | — | — | — | 2480 | 1606 |
| 5. Рутабага-Сківінг . | — | — | — | — | 2245 | 1724 |
| 6. *Швэцкая жоўтая* . | 1863,7 | 359,6 | 2911 | 443,24 | 2885 | 1620 |
| 7. *Краснасельская* . | — | — | — | — | 3111 | 1966 |
| 8. Königin . . . | — | — | 3049 | 415.27 | — | — |
| 9. Бангольмская . . | — | — | 3648 | 527,86 | — | — |
| 10. Гофманская белая . | 1283,7 | 333,2 | — | — | — | — |

Гэта табліца нам сьведчыць, што з сартоў кармовай бручкі найлепшымі для нас будуць—Швэцкая жоўтая і Краснасельская, якая ўжо даўно разводзіцца на Віцебскай с.-г. дасьледчай станцыі, Бангольмская і інш.

Насеньне караньплодаў можна купіць у Акруговым Аддзяленьні Цэнтраземсклада.



Бручка швэцкая.



Бурак экендорфскі.

Па разьліку на 1 дзес. патрэбна наступная колькачьць насеньня, пры радковым ручным пасеве: буракоў 1 пуд., турнэпсу 8 фунтаў,

бручкі 10 фун. і морквы цёртай 12 фун. Для пасадкі флянцамі патрэбна бручкі і буракоў на дзес. каля 60.000 шт.

Кораньплоды трэба сеяць вясной у такім парадку: раней усяго бручку і моркву, а пасьля буракі. Турнэпс трэба сеяць або рана да паяўленьня блашака, або ў чэрвені м-цы.

Аб тэхнічнх прыёмах культуры кораньплодаў пісалася ўжо досыць у „Плузе“. Я хачу толькі падкрэсьліць, што малейшае ўпушчэньне пры доглядзе за кораньплодамі, як несваечасовае паліва, прарыўка, зьніжае ўраджай. Кораньплоды прывучаюць селяніна сур'ёзьней адносіцца да палявой гаспадаркі. Вялікі ўраджай кораньплодаў сьведчыць аб культурнасьці сялянскае гаспадаркі. **М. Савіцкі.**

# Аб гібелі зімовых расьлін.

На працягу свайго росту с-г. расьліны часта пападаюць пад цэлы шэраг няспрыяючых умоў, якія ў тэй ці іншай ступені адбіваюцца на далейшым іх разьвіцьці і нарэшце на ўраджаі. Гаспадару неабходна такія ўмовы добра ведаць, каб у патрэбны час аказаць належную дапамогу расьліне ў змаганьні за найлепшы ўраджай.

Маючы гэта на ўвазе мне і хацелася затрымацца на адным вельмі важным пытаньні дзеля ўмоў Беларусі—гэта *аб гібелі азімых расьлін у час перазімоўкі* і як можа змагацца з гэтым гаспадар. У „Научно-Агрономическом журнале“ № 11—1926 г. надрукавана вельмі цікавая праца праф. В. П. Масолава па гэтаму пытаньню, на якой і трэба некалькі спыніцца тым больш, што гэта пытаньне мае асаблівае значэньне дзеля ўмоў Беларусі, бо тут неспрыяючыя ўмовы перазімоўкі азімых у некаторыя гады зьніжаюць на палову ўраджай.

Я маю мэтай даць некаторыя чыста практычныя парады. Праф. Масолаў кажа, што чуць ня з года ў год у пэрыод зімоўкі гінуць сотні дзесяткі азімых пасеваў; земляроб пазбаўляецца свайго насушнага хлеба, а дзяржава нясе вялікія страты, чаму зразумела, што цікавасьць вывучэньня прычын гібелі засеваў у зімні пэрыод павінен стаць прадметам дасканалага вывучэньня. З гэтаю мэтаю ім робяцца назіраньні над азімым жытам ужо на працягу 7 гадоў на дасьледчым полі Ціміразеўскай с-г. Акадэміі. У выніку маем наступны малюнак:

| ГОДЫ | Кусьціс-тасьць | % гібелі кустоў | % гібелі сьцяблоў |
|---|---|---|---|
| 1918-19 . . . . . | 6,1 | 38,0 | 41,8 |
| 1919-20 . . . . . | 6,7 | 45 6 | 49,0 |
| 1920-21 . . . . . | 6,0 | 4,5 | 9,6 |
| 1921-22 . . . . . | 6,8 | 46,3 | 44,3 |
| 1922-23 . . . . . | 9,4 | 20,6 | 64,3 |
| 1923-24 . . . . . | 7,0 | 24,7 | 52,6 |
| 1924-25 . . . . . | 8,4 | 6,6 | 6,7 |
| Сярэдняе . . | 7,0 | 26,6 | 38,4 |

Як бачым гібель кустоў у сярэднім дасягае 26,6 проц., а ў некаторыя гады даходзіць да 46,3 проц. і толькі ў гады 1920-21, 1924-25 гібель дасягае толькі 4,5-6,6 проц.. У такіх-жа адносінах ідзе і гібель сьцяблоў. Гэта зьявішча аўтар ставіць у сувязь з магутнасьцю сьнежнага пакрову і з глыбінёю прамярзаньня глебы. Найбольшы процант гібелі кустоў прыходзіцца на гады, калі выпала многа сьнегу і мала прамерзла глеба (1918-19 і 19-20), і, наадварот, у годы з найменшай глыбінёю сьнегу (1920-21, 1924-25 г.) назіраем найменшы процант гібелі кустоў жыта, што можна бачыць з табліцы:

| ГОДЫ. | 1918-19 | 1919-20 | 1920-21 | 1921-22 | 1922-23 | 1923-24 | 1924-25 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Магутнасьць сьнежнага слою ў см. . | 54 | 57 | 34 | 50 | 45 | 85 | 22 |
| Глыбіня прамёрзлай глебы ў см. . . | 10 | 8 | 50 | 70 | 35 | 12 | 40 |
| % гібелі кустоў азімага жыта . . . | 38,0 | 45,6 | 4,5 | 46,3 | 20,6 | 24,7 | 6,6 |

З матар'ялу, сабранага б. дэпартамэнтам земляробства па 72-х расійскіх губ. у тым ліку і па Беларусі , за 35 год мы маем такі лік няўдалых гадоў перазімоўкі азімых:

| ГУБ. | Лік г. з гібельлю азімых | ГУБ. | Лік г. з гібельлю азімых | ГУБ. | Лік г. з гібельлю азімых | ГУБ. | Лік г. з гібельлю азімых |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Архангельская | 1 | Казанская . | 12 | Саратаўская . | 13 | Смаленская . | 8 |
| Вяцкая . . | 9 | Маскоўская . | 14 | Курская . . | 16 | Менская . . | 17 |
| Ленінград. . | 6 | Цьвярская . | 15 | Варонежская. | 12 | Магілеўск. . | 15 |
| Пскоўская . | 11 | Ніжнягарод. . | 7 | Кіеўская . . | 15 | — | 8 |
| Валагоцкая . | 8 | Самарская . | 15 | Харкаўская . | 15 | Хэрсонская . | 15 |

Прыведзеная табліца сьведчыць, як па розных губ. неаднолькава лічба год з гібельлю азімых. Мала таго, ступень гібелі таксама не аднолькава. Як бачым, па Менскай губ. з 2-х год адзін зьяўляецца няспрыяючым; галоўнай прычынай большай часьцю зьяўляецца выправаньне, ад чаго ў некаторыя гады зьнішчаецца да 50 проц. пасеву ад агульнай плошчы азімых. У другіх-жа раёнах прычыны гібелі зьяўляюцца зусім другія. Так напрыкад; на поўдні—усходзе (Самарская г.)—вымярзаньне, Курская—галялёдзіца, Харкаўская—галялёдзіца і вясеньняе вымярзаньне, Хэрсонская—вымярзаньне, Ленінградзкая—вымярзаньне і выправаньне і бязсьнежныя зімы. Маскоўская губ. *траціць ураджай ад выправаньня і вымачваньня,* як *і Менская.* Гэта зьявішча тлумачыцца тым, што тут сьнегу выпадае мала і лажыцца ён часта на талую глебу.

Ва умовах Беларусі часьцей усяго гінуць зімовыя пасевы ад выправаньня, вымярзаньня і вымачак. Папрабуем цяпер разглядзець, як можа гаспадар з гэтым змагацца. Перш за ўсё трэба памятаць, што вялікая шкода бывае, калі сьнег пакрывае поле няроўным слоем. Каб гэтага пазбавіцца, трэба развадзіць на палёх у адпаведных мясцох штучную пасадку дрэў, якія рабілі-б перасьцярогу ад зьмятаньня сьнегу з высокіх месц у нізіны. Такім чынам, можна пазбавіцца ад двух непажаданых зьявішч: 1) *агаленьня курганоў і* вымярзаньня там азімых 2) натоўпу сьнегу ў нізінах, ад чаго абавязкова бываюць вымочкі жыта ад застою вады.

Каб адвесьці лішак вады з нізіны, лепш за ўсё паклапаціцца яшчэ з восені і парабіць адводныя канавы. Праводзіць іх можна проста плугам. Калі-ж гэта ўвосень ня зроблена, то рана вясной капаньнем канаў пры таяньні сьнегу не даюць зьбірацца і застойвацца вадзе.

Што датычыць выправаньня, то яно можа быць тады, калі добрая рунь жыта ідзе пад сьнег, але часьцей усяго выправаньне наступае пры ўтварэньні ледзяной кары вясной. На гэта трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу і па мажлівасьці старацца ад яе пазбавіцца. Ёсьць некалькі спосабаў. Усе яны накіраваны на разлом утворанай скарынкі. Дзеля чаго *праганяюць кованых коняй*, або прымяняюць востры колцавы валяць.

Усе гаспадары, якія ўжывалі гэты спосаб, упэўніліся што праца і сродкі добра аплачваюцца ўраджаем. Невялікая кара лёду ломіцца проста жалезнымі ці драўлянымі баронамі.

**А. Савельеў.**

**(Горы-Горкі, с-г. Акадэмія).**

---

# Як гнаіць зямлю лубінам.

*(З вопыту Новазыбкаўскай с.-г. дасьледчай станцыі).*

Новазыбкаўская дасьледчая станцыя ўжо 10 год вывучае ў полі і ў ляборатырыях, як лепш угнойваць зямлю лубінам. Вось галоўныя вынікі яе працы.

Лубінам добра ўгнойваць глебу ня толькі пескавую, але супескі і суглінкі. Чым лепшая глеба, тым буйнейшы расьце лубін. А чым больш зялёнай масы яго заараць, тым большы будзе ўраджай. З вопытаў сялян відаць, што лубін дае такую прыбаўку збожжа:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| на пескавых глебах | ад 20 | да 25 | пуд. | жыта. |
| „ супесках | „ 35 | „ 40 | „ | „ |
| „ суглінках | „ 50 | „ 60 | „ | „ |

Каб лубін добра павялічваў ураджай, трэба умець яго гадаваць. Сеяць яго трэба пудоў 15-16 на дзес. у другой палове мая. Першыя пасевы трэба заражаць тэй зямлёю, на якой раней рос лубін. Дзеля гэтага з лубінішча бяруць зямлі па разьліку 100-120 пуд. на дзес. Гэтую зямлю раскідаюць на новым полі, дзе думаюць сеяць у першы раз лубін, перад воранкай. Зямлю бяруць на глыбіні аднэй рыдлёўкі. Калі блізка няма поля, дзе раней сеяўся лубін, то лепш у першы раз пасеяць лубін на старой угноенай зямлі на насеньне. На другі год на гэтым-жа месцы сеяць лубін на ўгнаеньне. З гэтага поля і трэба браць зямлю для заражэньня ўсяго поля, дзе будзе далей сеяцца лубін на ўгнаеньне.

Ня верце таму, хто кажа, што лубін і без заражэньня добра ўдаецца. У добры год гэта і бывае, але найбольш лубін ў такім выпадку расьце вельмі дрэнна, бо глеба пад ім не заражана. Гэта праверана ня толькі ў нас на вопыце, але і на горкім вопыце сялян. Вось вельмі цікавы вопыт:

| | | |
|---|---|---|
| Ураджай жыта бяз лубіну . . . | 29 пуд. | зярна. |
| Па лубіне без заражэньня . . . | 38 „ | „ |
| Ураджай жыта па лубіне з заражан. | 61 „ | „ |

Незаражаны лубін звычайна бледнавата-жоўтаватага колеру, нізкі, няроўнамерны, дае мала зяляніны на заворку, а таму і ўраджай на ім нізкі.

На пескавых глебах зярняты лубіну трэба прыкрываць зямлёю ня глыбей аднаго вяршка, а на суглінках ня глыбей паўвяршка.

Заворваць лубін пад жыта трэба тыдні за два да пасеву. Калі-ж прыходзіцца заворваць перад пасевам, то трэба поле добра прыкатаць. Жыта ня любіць асядаючай зямлі. Ураджай збожжа мала залежыць у гэтым разе ад часу заворваньня лубіну. На пяскавых глебах лубін трэба заворваць тагды, як стручкі яго стануць блішчэць. Гэтым часам ён мае больш зелені. На вязкіх глебах трэба заворваць раней.

Чым старэйшы лубін, тым бўльш яго нарастае, але тым трудней ён перагнівае ў зямлі. На пескавых глебах лубін, як і гной, хутка перагнівае. Таму яго можна заворваць тут больш старым з бліскучымі стручкамі, а на гліністых глебах ён гніе больш павольна, і заворваецца дзеля гэтага больш маладым. Па тэй-жа прычыне ў сухую восень трэба заворваць лубін больш маладым, а ў даждлівую больш старым.

Вопыт паказвае, што лубін паляпшае ўплыў гною а гной паляпшае работу лубіна. Дзеля гэтага вельмі выгадна сеяць лубін на старых угноеных глебах. Вельмі добра дабаўляць пры заворваньні лубіну пудоў 600 гною на дзес. Робіцца гэта так: поле прыкатваецца катком па ходу плуга, каб лягчэй было заворваць. Па прыкатанаму лубіну раскідаецца гной у ліку 600 пуд. на дзес. Гноем поле толькі прытрусіцца, а карысьць вялікая. З вопытаў за 7 год, калі шмат было сухіх гадоў, мы маем:

| | | |
|---|---|---|
| жыта па аднаму лубіну давала | 41 п. зярна і | 66 п. саломы; |
| жыта па лубіну і 600 п. гною | 68 „ „ | 112 „ „ |

Прыбаўка ад 600 п. гною на першым корані дала 27 п. зярна і 46 п. саломы. Лічачы жыта па 1 р. 50 к. за пуд., а салому па 25 кап. за пуд, мы маем 52 руб. прыбаўкі. На першым корані кожны пуд гною ўжо аплаціца па $8^1/_2$ кап.

Добра ідзе лубін у такім севазвароце:

**1-ы год лубін на запашку.**
**2-гі „ жыта з падсевам сэрадэлі альбо без падсева.**
**3-ці „ бульба па гнаі.**
**4-ы „ а в ё с.**

Калі глеба канюшынная, то да аўса можна падсеяць канюшыну і далей пойдуць канюшынныя зьмены.

Лубін—добрае ўгнаеньне пад жыта, а яшчэ лепш ён пад бульбу. Бульба лепш аплачвае лубін, як жыта. Увосень яго трэба глыбока заараць, а вясною пасьля мелкай апрацоўкі глебы, садзіць бульбу пад рыдлёўку. Калі бульба раньняя, то па ёй можна сеяць жыта.

*Як сеяць лубін на насеньне.* Лубін добра разводзіць сваім насеньнем. Дзеля таго першыя клопаты гаспадара—гэта выгадваць сваё насеньне. Хоць гэта і ня хітрая штука, але зрабіць добра яе можна толькі ўмеючы. Перш за ўсё пасевы трэба заражаць. На пасевы браць пры раскідным пасеве пудоў 12 насеньня. Сеяць трэба разам з раньнімі яравымі альбо зараз-жа пасьля раньніх яравых. Ні ў якім разе нельга пазьніцца, бо тады ня высьпее насеньне. На жырных глебах лубін на насеньне лепш ня сеяць. На іх ён марудна ўзыходзіць, доўгі час завязвае стручкі, позна і нярoўнамерна пасьпявае. Попел з печы пудоў 60 на дзес.—вельмі добрае ўгнаеньне пад лубін на насеньне. Насенны лубін вельмі добра аплачвае і калійную соль.

Самае цяжкае—гэта прыборка лубіну; калі ён сьпее нярoўнамерна, яго трэба выбіраць рукамі альбо струкі зрываюць ці выцягваюць сьпелыя калівы.

Пакуль лубін зусім высьпяе, чакаць ня трэба. Ён дасьпее і ў копках. Касіць лубін лепш раніцаю, або ў хмурную пагоду. У ясную пагоду шмат зярнят будзе асыпацца.

Захоўваць лубін можна ў снапкох. Тагды можна злажыць яго ў стажок і лепш пласты лубіну пераслаць пластамі саломы. Зьверху добра прыкрыць саломаю. Малаціць трэба пад вясну. Калі лубін змалочан увосень, то зярно трэба ссыпаць на хаце (на гары) альбо ў сьвірне пластам вяршкі ў 4 і часьцей яго варушыць рыдлёўкаю. Інакш лубін паплесьнее і страціць усхожасьць.

*Як карыстацца насеньнем лубіну.* Калі лубін паплесьнеў, то выкідаць яго ўсё-ж ня трэба. Насеньне гэта трэба перамалоць на муку і ёю ўгнойваць глебу пад бульбу. На дзесяціну лубінавай мукі трэба пудоў 40. Рассыпаць яе трэба пад першае ворыва. Калі-ж пры пасадцы дадаць яшчэ і гною, то гэта яшчэ больш палепшыць глебу.

Калі ад пасеву застаецца насеньне лубіну альбо калі яно наогул ёсьць лішняе, то яго можна ня толькі добра прадаць, але выгадна скарміць каровам ці авечкам. Скармліваецца яно так: насеньне лубіну кладзецца ў чугун, наліваецца вадою і кіпяціцца каля гадзіны. Пасьля ваду зьліваюць, а зярняты высыпаюць у якую-небудзь пасудзіну і заліваюць халоднай вадой. Ваду мяняюць два разы ў дзень. Праз два-тры дні лубін губляе ўсю сваю гаркату. Такога нягоркага лубіну можна даваць дойнай карове фунтаў па 3-5 у дзень. Па спажыўнасьці такі лубін ня горшы за ільняную макуху. **Я. Сямёнаў.**

(Новазыбкаўская с.-г. вопытная станцыя).

## Барацьба з засьмечанасьцю палёў.

У папярэдніх нумарох часопісі „Плуг“ былі дадзены зьвесткі аб ступені засьмечанасьці нашых пасеваў. Пад‘агульваючы даныя досьледу мы маем такую засьмечанасьць:

| | Найбольшая. | Найменьшая. | Сярэдняя. |
|---|---|---|---|
| Жыта . . | 62 % | 17 % | 49 % |
| Ячмень . . | 71 % | 14 % | 50 % |
| Авёс . . . | 71 % | 13 % | 50 % |

Малюнак досыць прыкры і таму будзе ня лішняе пагутарыць аб тым, як павесьці барацьбу з гэтым злосным ворагам.

Пашукаем, што спрыяе гэтаму няпрыемнаму зьявішчу.

Сьметнякі зьяўляюцца бадай заўсёды меснымі ўраджэнцамі, а культурная расьліна пападае да нас з розных канцоў сьвету і калі ёй трэба прыстасоўвацца да нашых умоў, у якіх ужо вельмі добра сябе адчувае значная колькасьць сьметнякоў, то зразумела, што вытрымаць барацьбу, даць добры ўраджай і захаваць свае якасьці культурная расьліна ня зможа.

Сьметнякі прыстасоўваюцца да ўсякіх умоў і пабіваюць культурныя пасевы. Проф. Пэтэр дасканальна давёў, што ў паўвяковых лясох на глыбіні чвэрці мэтру сустракаецца вялікая колькасьць насеньня палявых сьметнякоў захаваўшых усхожасьць. Украінскі дасьледчык Шавялёў падлічыў, што адно сьцябло асоту дае да 1.937 зярнят. Букланд паказвае, што звычайны крэстоўнік (Senecio vulgaris) дае 6.500 зярнят насеньня, кукаль (Agrostema Gitago) дае 2.500 шт., асот (Sonchus arvensis) дае 19.000 шт., стрэлкі звычайныя (Capseln Bursa pastoris) дае 37.500 шт. і г. д. Але сьметнякі маюць сваіх шкоднікаў і свае няпрыгоды і таму значная колькасьць іх гіне.

Запушчаныя і неабкошаныя межы, пасеў неачышчаным насеньнем гэтак-жа сеюць многа сьметнякоў на нашы палосы, сырыя і мокрыя глебы спрыяюць разьвіцьцю хвашча, пырніку і інш. Вымеценыя з гумна сьметнякі пасьля ачысткі насеньня пападаюць у гной, а потым разам з ім пападаюць на поле. Пустыры, дарогі, неправільны севазварот—усё гэта спрыяе разьвіцьцю сьметнякоў, якія з кожным годам больш і больш выцясьняюць культурную расьліну.

Якую шкоду прыносяць сьметнякі, скажу коратка. У Нямеччыне Навацкі параўнаў пасевы яравога жыта і меў: на чыстым полі 86 пуд. зярна, на засьмечаным--29 з 1/2 пуд. з дзес. Растова-Нахічаванская дасьледчая станцыя таксама ставіла досьлед і вынікі мела такія:

| | | | |
|---|---|---|---|
| на чыстым полі зярна было | 78 пуд. | саломы 204 п. | з дзес. |
| на засьмечаным „ „ | 58 „ | „ 175 „ | „ „ |

Сярэдняя трата ад засьмечанасьці зярна 20 пуд. і саломы 30 п. на дзес. Проф. Скандракоў у сваёй працы даводзіць, што на Украіне аўсюг выцясьняе культурную расьліну і сам становіцца на яе месца, што відавочна і ў нас для іншых сьметнякоў.

*Меры барацьбы з сьметнякамі* – пытаньне досыць складанае і аб ім гаспадар павінен рупіцца штодня. Перш за ўсё, гаспадар павінен зрабіць захады, каб ня даваць сьметняком абсемяняцца, якія ўжо вырасьлі на полі, межах, дарогах, канавах і г. д. (упору іх скасіць); пасьля жніва лушчыць поле, увесьці севазварот з асыпнымі расьлінамі, увесьці чорны папар для барацьбы з сьметнякамі, асушаць і вапнаваць сырыя вучасткі.

Пасеў на засьмечаным полі рабіць густы і ачышчаць пасеўны матар‘ял. Ня купляць на рынку засьмечанага, неправеранага кантрольнай насеннай станцыяй матар‘ялу. Мякіну, якая даецца скаціне ў корм, трэба ачысьціць ад сьметнякоў (сьметнякі неператраўляюцца скацінай). Ня купляць атрубей з прымешкаю сьметнякоў.

У мэтах барацьбы з сьметнякамі іх падзяляюць на дзьве групы: *першая*—сьметнякі. якія размнажаюцца выключна насеньнем і *другая*—сьметнякі, якія размнажаюцца яшчэ і карэньнямі (асоты, пырнік і інш.).

Усе пералічаныя способы барацьбы зьнішчаць толькі першую групу сьметнякоў (пашырэньне насеньнем). Для шматгадовых сьметнякоў ужываюцца асобныя меры.

*Асоты* маюць на глыбіні 12 вярш. карнявішчы, якія даюць паросткі ўверх. У барацьбе з імі трэба клапаціцца, каб ня даць асоту пасьпець і абсеменіцца. Сеяць тут трэба бульбу, кораньплоды, падрэзаць карэньні асота пры глыбокай воранцы поля, вырываць вырасшы асот рукамі і г. д.

*Пырнік* асяляецца на вільготных глебах і пры дрэннай культурнай расьліннасьці. Спосабы барацьбы—удаленьне лішкаў вільгаці, вапнаваньне глебы, штучнае ўгнаеньне, зацяненьне глебы культурнай расьлінай, пасеў асыпных расьлін, лушчэньне поля, выцягваньне бараною карэньняў наверх.

*Хвошч* вельмі добра расьце на сырых глебах. Ён мае паўзучы корань на глыбіні ад 3/4—1 1/2 арш. і пускае ўверх паросткі, размнажаецца спорамі. Спосабы барацьбы—асушка поля, зацяненьне культурнай расьлінай, глыбокая падрэзка карэньняў і скашваньне да абсеменьня.

*Шчаўе* расьце на бедных вапнаю глебах, ад унясеньня якой зусім гіне.

**А. Дзямідовіч.**

# Як вёска Сьвятое рыхтуецца да пасеву збожжа і траў на балоце.

Хутка трэба брацца за пасевы. Наша вёска ведае, што ў яе ўзорана каля 33 дзес. балота і яна ўжо ад самых каляд думае аб насеньні і ўгнаеньні.

Увосень 1926 г. наша Кастрычнікавае мэліорацыйнае таварыства атрымала крэдыт у 5.000 руб., з якіх частку палучыла і вёска Сьвятое. Нашы сяляне напісалі агульны на ўгнаеньне сьпіс. І аказалася, што на ўсю вёску трэба 700 пуд. угнаеньня (калійнай солі тамасоўкі), 500 пуд. аўса, 8 пуд. канюшыны белай і чырвонай, 12 пуд. цімафейкі. Акрамя таго, будзем яшчэ сеяць асыпныя расьліны. Сяляне трацяць шмат сродкаў бо спадзяюцца добрага ўраджаю на балоце.

Сяляне, выкарыстоўвайце балота праз мэліорацыйныя таварыствы!

Сел. **М. Карунчык.**

# Паштовая скрынка.

**С. Сялюкіну.** На ваша хадайніцтва аб крэдыту на сартавое насеньне, угнаеньне і г. д. Віцебскае Акр. Т-ва с-г. крэтыту адказала, што яно зьвярнулася да вашага раённага т-ва крэдыту з пастановай дапамагчы вам крэдытам: ці з фонду беднаты (калі Вы бядняк), ці праз крэдытаваньне сартовым насеньнем, с-г. машынамі, ці іншым парадкам. Вы павінны быць пайшчыкам раён. т-ва. Доўгатэрміновага крэдыту на гэту мэту няма.

**А. Карунчыку.** „Навучэньне беларускай мове“ і машыны пераданы ў газэту „Б.В“. Селькорам „Плуга“ Вы залічаны.

**П. Піліповічу.** Ваш ліст перадалі Лясному Кіраўніцтву і Белсельсаюзу. Тое-ж пра макуху пісалася ў „Сав. Бел.“ за 22-III.

**Ад Рэдакцыі „Плуга.“** Просьба да ўсіх хат-чытальняў, с-г. гурткоў, нашых чытачоў і супрацоўнікаў на працягу красавіка м-ца правесьці кампанію па падпісцы на „Плуг“. У разьмеры 10 проц. прысланай у рэдакцыю падпіскі, сабраўшаму будзе выслана с-г. літаратура.




## Свой ці замежны бык-племянік?

Сялянам добра вядома значэньне племяніка для атрыманьня лепшага прыплоду. Часта цэлы шэраг вёсак адрозьніваюцца палепшанымі коньмі ў выніку працы добрага жарабка.

Добры жарабок, бык і кныр—гэта амаль самая галоўная і неадкладная патрэба сялянскай жывёлагадоўлі. Кожную вясну паўстае пытаньне, дзе ўзяць добрага племяніка і селяніну прыходзіць думка, чаму ніхто ня прыводзіць цэнных племянікоў, чаму не клапоцяцца тут ні савецкія гаспадаркі, ні коопэрацыя, ні зямельныя установы?

На гэту думку трэба адказаць, што гаспадарчыя і організацыйныя разрахункі ня прыводзяць нас да такога рашэньня. Наша жывёлагадоўля патрабуе замены цэлых дзесяткаў тысяч жарабкоў, быкоў кныроў і бараноў. Купіць такую масу плямянікоў у іншых краінах, купіць і разьмяркаваць ва умовах нашых гаспадарак—справа ня простая, для якой ня хопіць ні сіл, ні сродкаў. Загэтым, у нас адзін шлях—*гэта паступова сваімі сіламі і сродкамі ўзяцца за працу над усімі лепшымі племянікамі, якія ёсьць у нас, узяцца за тую частку маладняку, якая выходзіць ад лепшых матак і ад лепшых племянікоў.*

А такі матар'ял у нас ёсьць. У нас маецца 1674 палепшаных ухваленых жарабкоў і 918 быкоў. Ёсьць яшчэ дзяржаўны *конны завод* і дзяржаўная *канюшня з жарабкамі.* Адчынены 2 сьвіных заводы з ангельскімі сьвінямі і дзьве племяных аўчарні з раманаўскімі авечкамі, паляпшаецца птушкаводны расплоднік. Далей, значная частка савецкіх гаспадарак пачынае стала займацца жывёлагадоўляй, зьвязваючыся ў працы з сялянствам.

Але галоўныя нашы магчымасьці ўсё-ж такі крыюцца ў гушчы сялянскай жывёлагадоўлі.

Тут мы ўжо можам гаварыць, што шмат дзе адзначаецца і самы напрамак працы, асабліва ў сьвінагадоўлі і малочнай гаспадарцы. Сьвіныя заводы ангельскіх сьвіней працуюць у Случчыне і Аршаншчыне. Там-жа ствараецца і густая сетка расплоднікаў і злучпунктаў для будучай базы па вывазу дарагой сьвініны за-межы (будзе бэконная ф-ка).

Першым раёнам па малочнай жывёлагадоўлі зьяўляецца Самахвалавіцкі раён Менскае акругі (будучая Данія пад Менскам). Тут ёсьць племхоз чырвонай малочнай скаціны (Калініно), 34 злучпункты з племянікамі чырвонага беларускага быдла, ёсьць ужо 2 кантрольных таварыствы і саюз гадоўцаў чырвонага быдла. Падобныя працы бачым і ў некаторых раёнах Віцебшчыны і Магілеўшчыны.

Таксама перадавыя сялянскія гаспадаркі павінны аб'яднацца для гадоўлі і ўтрыманьня сваіх грамадзянскіх коопэрацыйных племянікоў. Толькі такім спосабам можна выйсьці з-пад апекі прыватных уласьнікаў.

Будзем лепш бязупынна ствараць новыя масы сваіх добрых племянікоў, чым бяссыстэмна прывозіць чужы, трацячы дарэмна грошы і губячы ўсё лепшае ў нашай—мясцовай жывёлагадоўлі. У гэтым кірунку—палепшаньня нашай жывёлы, і праводзіць сваю працу Наркамзем і ўсе зямельныя установы.

**П. Ластоўскі.**

## Паляпшайце коняй.

Нам трэба палепшыць якасьць сялянскага каня. Дзеля гэтай мэты штогодна павялічваецца лік племяных жарабкоў. У бягучым годзе на злучпунктах Беларусі будзе працаваць больш 1700 жарабкоў; з іх сялянскіх ухваленых каля 1550, саўхозскіх каля 100 і дзяржаўных і коопэрацыйных каля 50 шт. Сярод сялянскіх жарабкоў 50 проц. мясцовых палепшаных і на 25 проц. мэтысы-арлоўцы і бельгійцы.

Па розных установах—пераважна рысакі. Плата за жарабка ў гэтым сэзоне вызначана Цэнтральнай Зоотэхнічнай Камісіяй ня вышэй 5 р., пры чым дзяржаўныя і саўхозскія жарабкі павінны пакрываць бесплатна 25 проц. кабыл (бедняцкія і чырвонаармейскія). Акрамя гэтага, у гэтым годзе будуць адчынены 4 пункты бесплатнага штучнага заплодненьня кабыл чыстапароднымі жарабкамі (у Гомельскай, Рэчыцкай, Мазырскай і Менскай акругах).

**С. Д.**

## Ці сходна беларусу гадаваць і трымаць у сваёй гаспадарцы каня *).

Сярод аграномаў жывёлаводаў і асабліва сярод эканамістых гадамі склалася думка, што паміж іншых галін жывёлагадоўлі каняводзтва зьяўляецца ва умовах сельскае гаспадаркі найбольш стратным. Яны пераканаsuccessfully ў тым, што сяляне прымушаны трымаць коняй за тым, што пакуль ня могуць абыйсьціся бяз конскае рабочае сілы, і разам з тым ня могуць поўнасьцю скарыстаць яе. Па іх думцы ня доўга чакаць, калі трактары і аўтамабілі поўнасьцю заступяць месца каня. У запраўднасьці-ж гэта ня так.

Па зарубежных краінах, там, дзе сельская гаспадарка машынізавана на ўсе 100 проц., як Нямеччына, Францыя і Бельгія, раўналежна ўзмацняюць і разьвядзеньне коняй. Ва Францыі ў 1910 г. было 3 мільёны 197 тысяч коняй, а ў 1911 г.—3.236.000; у Нямеччыне ў 1907 годзе было 4.345.000 коняй, у 1912 г.—4.516.000.

Усюды па гэтых краінах агульная вытворчасьць рыначных коняй перайшла да сялян-фэрмараў, якія злучаюцца ў таварыствы, атрымоўваюць ад Дзяржавы розныя ільготы і выкідаюць на зарубежныя рынкі (у Амэрыку і СССР) шмат племяных і таксама рабочых коней. Такія краіны, як Нарвэгія і Фінляндзія, якія ня маюць нават і такіх умоў

*) У парадку абгавораньня (Рэд.).

дзеля каняводзтва, якія ёсьць у Беларусі, і тыя гадуюць коняй для вывазу ў СССР і атрымоўваюць за 1-2-х вяркшовага рабочага каня да 400 руб., а за жарабка-племяніка—1000 і больш руб.

У сучасны момант мы стаім перад такім пытаньнем: *ці ёсьць сэнс гадаваць коняй у сябе на Беларусі, ці можа выгадней купляць коняй за абшарамі.* Нашы эканамісты гавораць, што ва умовах Беларусі няма сэнсу гадаваць і дзяржаць коняй для рынку і нават для сябе за адсутнасьцю эканамічных падстаў. Яны гавораць, што ў нас няма ні стэпу, ні добрых лугоў, што клімат наш сыры, а глеба балотная, і самае галоўнае, што конь у сельскай гаспадарцы працуе толькі ад 100 да 120 дзён на працягу года.

Ня гледзячы на гэта, попыт на рабочых і племяных коняй на Беларусі досыць значны. Досьлед мінулых гадоў паказаў, што дастаўленыя на абшар Беларусі з Сібіру коні абышліся да 400 руб. кожны, а на мясцовым рынку такія коні былі па 150—200 руб. Пытаньне аб мэтазгоднасьці гадоўлі коняй трэба разглядаць з двух бакоў: *трымаць каня ў гаспадарцы дзеля сялянскай працы—адна мэта, гадаваць маладняк дзеля прадажы—другая.* У першым выпадку ўмоўна можна згадзіцца з эканамістамі, што трымаць каня толькі для сялянскай працы ва умовах Беларусі стратна, але і чугунка сама па сабе не дае Дзяржаве прыбытку, толькі ў агульнай эканоміцы Дзяржавы яна мае амаль што не галоўнае значэньне. Таксама і конь у сельскай гаспадарцы. Селянін ня маючы каня ня лічыць сябе гаспадаром і гэта зразумела. Няхай ён мае ўсяго 3 дзесяціны, але ён павінен апрацаваць іх своечасова, а гэта можна зрабіць толькі маючы свайго каня. Ёсьць шмат прыкладаў, калі безканявыя сяляне, маючыя 4 дзесяціны бяруць у свайго суседа каня разам з плугам і бараною, але яны пасьля за гэта даюць 70-75 мужчынскіх рабочых дзён. Паклаўшы на поўную апрацоўку дзесяціны 6 дзён, атрымаем, што вартасьць аднаго рабочага дню каня ў сэзон з сельска-гаспадарчым інвэнтаром раўняецца 3-м рабочым дням чалавека, г. зн., што пры аплаце падзённага рабочага ў 1 руб. за работу каня трэба заплаціць 3 р.

Згодна бюджэтнага абсьледаваньня і таксама справаздач саўхозаў можна заўважыць, што ў сялянскай гаспадарцы коні маюць поўную нагрузку толькі на працягу 120—150 дзён у гаду, а па саўхозам—200-210 дзён. Узяўшы за сярэдняе 150 дзён і сярэднюю плату за каня ў 2 р., атрымаем 300 р. у год за працу каня, а ўтрыманьне яго разам з доглядам абыходзіцца каля 250 руб. (па саўхозах да 350 руб.).

Пры гэтым няпоўным падрахунку можна лічыць, што трымаць каня ў сельскай гаспадарцы не стратна, што гаспадар мае каня ў патрэбны момант, скарыстоўвае яго, як хоча і калі хоча, трымае такога каня, які яму патрэбен.

Вартасьць каня ў сельскай гаспадарцы павялічваецца яго якасьцю і гатункам а таксама прыплодам. Да 6 мес. гаспадар трымае сасуна пад маткай і яго гадоўля нічога ня варта. Па восені такі сасун сярэдняга гатунку каштуе 30—50 руб., а лепшага гатунку ад 50 да 100 руб. Гэта трэба лічыць карысьцю гаспадара. Далей, жарабок-племянік дае ад 200—250 руб. у сэзон (па Случчыне ад 800 да 1000 р.). На рынку ўсё больш і больш расьце запатрабаваньне на добрых рабочых коняй і жарабкоў. Гэта запатрабаваньне ідзе ад вайсковых установ, бо агульная колькасьць коняй па СССР паменшылася на 10.000.000 супроць колькасьці да рэвалюцыі. Пры наборы коняй у войска бачым досыць

высокую расцэнку—ад 200 да 500 руб. (гарматныя і вярховыя—даражэй, а абозныя—дзяшавей). Таксама расьце і патрэбнасьць у жарабкох-племянікох, на якіх цана, напрыклад, у Случчыне даходзіць ад 1000 да 1500 руб. Селянін навучыўся гадаваць добрых коняй па сваіх нормах і тым кармам, які ў яго ёсьць у гаспадарцы; яму гадоўля абыходзіцца ў 5 разоў дзяшавей, як на Дзяржаўных конскіх заводах. Вось гэты факт больш усяго гаворыць за тое, што настаў час, калі завадзкая праца па каняводзтву павінна адыйсьці да сялян праз коопэраваньне іх каняводзтва.

**С. Дыакапенка.**

---

# Палепшаньне сельскай гаспадаркі і сялянская моладзь.

Усе мерапрыемствы, якія праводзяцца зямельнымі органамі для палепшаньня сялянскай жывёлагадоўлі, сустракаюць на сваім шляху многа розных перашкод. Па нашай думцы, галоўным будзе няўменьне нашых раённых працаўнікоў увязаць сваю практычную працу з актывам вёскі, прадстаўнікі якога ў цэнтры дабіваюцца ўцягненьня сваіх вясковых маладых сіл у агрыкультурную працу. Асабліва важна гэта ў момант прыбліжэньня вясны, калі ўся вёска пачынае клапаціцца аб насеньні, машынах, угнаеньнях, а хто аб злучных племянікох, збыту малака і г. д. Усё гэта так звычайна, што ня варта было-б і гаварыць, але мы ведаем, што ўвесь посьпех правядзеньня пасеўнай і злучнай кампаніі залежыць ад правільнай і ўмелай організаванасьці, ад мясцовай самадзейнасьці і актыўнай ініцыятывы сялянскай моладзі.

Усе паказальныя мерапрыемствы, як правільнае кармленьне, догляд і ўтрыманьне кароў, правільная гадоўля цялят і бычкоў, перабудова скотных хлявоў і здабываньне чыстага (без гразі) малака, ухваленьне лепшых племянікоў для павялічэньня ліку грамадзкіх злучпунктаў і інш., вельмі часта праходзіць у вёсцы няпрыметна і такім чынам здабытыя вынікі ня робяцца багацьцем вёскі.

Ня будзем казаць, што ўмовы працы для нашага аграпэрсоналу асабліва спрыяючыя, але-ж нельга і ня думаць аб лепшым заўтрашнім, аб перабудове вёскі, аб прыбліжэньні ведаў да сялянства.

Тут неабходна самаахвярная праца, праяўленьне іныцыятывы і творчасьці, а для гэтага неабходна ўтварэньне мясцовых гурткоўактывістаў з сялянскай моладзі, якія возьмуць на сябе ролю праводзіць у вёсцы ўсе намечаныя плянам НКЗ мерапрыемствы, і якія не пад сілу адным аграномам.

Мы думаем і перакананы, што комсамолец у вёсцы павінен зьявіцца жывой сувязьзю агранома з масай, без чаго гаспадаркі будуць слаба разьвіваць сваю таварнасьць.

**І. Н. Атабекянц.**

---




# Трэба гатавацца да пасеву леса на лесасеках лясоў мясцовага значэньня.

Шмат лясных вучасткаў перайшло ў нас у лясы мясцовага значэньня. Няма таго раёну, дзе-б тая ці іншая вёска, а то і цэлыя аб'яднаньні і хутары не атрымалі лясных плошчаў у лясы мясцовага значэньня. Але, як атрымалі, дык і здаволіліся тым, што будуць мець дармовую драўніну. А каб палепшыць гэтыя лясы, мала хто думае. Лес сячэцца кожны год, ня толькі ў разьмеры гадавога прыросту, але часта і наперад за некалькі год.

Лес высякаецца, а на аднаўленьне дзялянак зьвяртаецца мала увагі. Як відаць, лесакарыстацель спадзяецца, што лес сам нарасьце. Гэта вялікая памылка, і вось чаму. Прыроднае аднаўленьне на высечаных плошчах (лесасеках) добра можа ісьці толькі ў вялікіх лясных масывах, дзе лесасека значна забясьпечана суседнім лесам з усіх бакоў, адкуль ідзе значны налёт ляснога насеньня і таксама ёсьць забясьпека затрыманьня насеньня сарнякоў і розных траў, якія вельмі хутка займаюць новыя плошчы з-пад лесу. У лесе, зразумела, сарнякі ня могуць расьці, бо ім не хапае сьвету, а як лес высякаецца, плошча асьвятляецца, вось яны імкнуцца, каб захапіць яе. Лесасекі ў лясох мясцовага значэньня даюць шырокі прастор сарняком, бо ў большасьці сваёй гэтыя лясныя плошчы не складаюць масываў, а знаходзяцца паміж палёў, сенажацяй, пры пустырох і інш. А раз сарнякі заселі і асабліва травы, то лесасека ня можа без дапамогі аднавіцца лесам. Ды, апрача таго, і налёт ляснога насеньня тут значна меншы, чым у вялікіх лясных дачах.

Мне давялося зрабіць досьлд у верасавым бары ў дзяржаўных лясных дачах. Адна з іх—Ліхачоўская—невялікая па плошчы, знаходзіцца сярод палёў і выганоў, вузкая і доўгая. Тут лесасекі былі з двух бакоў, выходзілі да поля і выгану і ня мелі заслону лесам; значыць, прыблізна знаходзіліся ў такіх умовах, у якіх яны знаходзяцца ў лясох мясцовага значэньня.

Другая дача—Прусінаўская вялікая па плошчы, масыўная; лесасекі былі ў сярэдзіне лесу (вядома, дзеля параўнаньня браліся лесасекі аднаго году). Як на лесасеках Ліхачоўскай дачы, так і Прусінаўскай (Нёманскае лясьніцтва) я залажыў пробныя плошчы і падлічыў лік хваёвых усходаў. Пры гэтым падліку аказалася, што ў Ліхачоўскай дачы на лесасеках непасрэдна мяжуючых з полем і выганам прыроднае аднаўленьне ідзе дрэнна; тут сарнякі і розныя травы хутка зрабілі дзярніну, а па лесасеках сярод ляснога масыву ў Прусінаўскай дачы,

дзярніна слабая і аднаўленьне пашло хутчэй. Дадаю табліцу ходу прыроднага аднаўленьня лесасек.

| Дача | Лік усходаў на дзесяціну | | | | Разам на лесасецы |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1 гад. | 2-х гад. | 3-х гад. | 4-х гад. | |
| 1. Ліхачоўская | 25 | 105 | 800 | 1095 | 2025 шт. |
| 2. Прусінаўская | 700 | 1250 | 1450 | 2200 | 5600 „ |

Як бачым, прыроднае аднаўленьне здавальняюча ідзе ў Прусінаўскай дачы (масыўнай), а ў Ліхачоўскай—яна ўжо не здавальняе лясного гаспадара, бо лесасекі, якія маюць на дзес. менш за 5000 самасеву, лічацца неаднаўленымі.

Як Ліхачоўская лясная дача, у такім дрэнным становішчы з боку прыроднага аднаўленьня лесасек знаходзяцца амаль што ўсе плошчы лясоў мясцовага значэньня.

Цяпер само сабою выплывае запытаньне: „што-ж тут рабіць?". А вось што. Лясны гаспадар (Дзяражава) у Ліхачоўскай дачы не чакаючы прыроднага аднаўленьня, узяў і засеяў шмат лесасек хвойкай; і добра зрабіў, бо як мы бачым за чатыры гады не наляцела і палавіны патрэбнага дзеля аднаўленьня насеньня. Праўда, яно можа і наляцела, але не дало ўсходаў.

З гэтага відаць, што амаль усе лесасекі-высечкі ў лясох мясцовага значэньня патрабуюць засеву лесам. Дзеля гэтага трэба зьбіраць лясное насеньне і засяваць ім высечаныя плошчы з году-ў-год, тады ня будуць зьністажацца лясныя плошчы, а наадварот—будуць у будучым яшчэ магутнейшыя дрэвастаны.

Зьбіраць лясное насеньне лёгка, гэта добра рабіць, як высякаецца дзялянка. Тады шышкі зьбіраюць з паваленых дрэў. Усіх сялян, сярод якіх разьмяркоўваецца лес з лесасекі, можна запрасіць або і прымусіць, каб яны сабралі хаця-б па торбе шышак. З такіх шышак будзе самае добрае насеньне. Шышкі можна здаваць у лясьніцтва на насеньнясушыльні, адкуль выдадуць ужо гатовае насеньне. Калі часам здарыцца, што блізка лясной насеньнясушыльні няма, тады можна здабыць насеньне з шышак у хаце, дзеля чаго трэба ня поўную торбу з шышкамі павесіць каля печы. Трохі падсохшы, шышкі стануць „страляць", а гэта значыць, што з іх высыпаецца насеньне. Тады торбу трэба павесіць яшчэ ў ґарачэйшым месцы, каб высыпалася ўсё насеньне. Як шышкі ўсе патрэскаюцца, іх вымаюць; у торбе застаецца толькі насеньне, якое годна да высеву вясною на лесасеках. Самую сяўбу трэба рабіць пад кіраўніцтвам прадстаўніка з лясьніцтва, каб ня было памылак.

Усе лесакарыстацелі, бярэцеся хутчэй за збор шышак, каб да часу сяўбы быць гатовымі.

Калі лесасекі-высечкі будуць засявацца лесам своечасова, тады лясы ня будуць зьністажацца, а наадварот палепшацца.

**Т. Гаўрыловіч.**

# Як аднаўляць высечаны лес.

Аднаўленьне лесу бывае натуральнае і штучнае. Натуральным аднаўленьнем лесу завецца такое аднаўленьне, калі на месцы сьсечанага лесу зноў вырастае лес без пасеву альбо пасадкі, а штучным—калі аднаўленьне робіцца пасадкай альбо пасевам.

*Натуральнае аднаўленьне лесу*. На натуральнае аднаўленьне лесу неабходна зьвярнуць увагу, бо чым больш вырасьце лесу натуральным шляхам, тым менш прыдзецца рабіць штучнага пасеву, што патрабуе вельмі многа сродкаў.

Болей усяго натуральнаму анаўленьню лесу шкодзіць паша жывёлы, якая ня толькі вытаптывае і зьядае ўсходы і маладыя верхавінкі, але яшчэ ўтаптвае глебу, чаму яна робіцца зьдзярнелай, а на гэтай глебе насеньне лясных парод ня можа ўкараніцца і маладыя ўсходы гінуць. Вось чаму на ўсіх вырубах і палянах, якія запушчаны пад самасевы лесу, а таксама па ўсіх маладнякох, верхавіны якіх можа дастаць скаціна, пасьвіць яе нельга. Плошчы якім пагражае паша скаціны, належыць абавязкова абгараджваць. Падругое, на задзярнелых вучастках і дзялянках, на якіх налёт насеньня забясьпечан, трэба рабіць узорваньне глебы палосамі і пры гэтым абавязкова вучасткі абгараджваць.

Патрэцяе, пры адводзе дзелянак захоўваць належную іх шырыню ня болей 30 саж. (60 мэтр.) для іглістых парод і ня болей 50 саж. (100 мэтр) для лісьцявых і застаўляць у належных выпадках каля 30 шт. на гэктар зусім надзейных насеньнікаў, якія павінны быць разьмяркованы роўнамерна.

Пачацьвертае, пры высечцы і вывазе лесу прымаць усе меры да аховы падросту; пры падчыстках месц высечкі наглядаць, каб ломачча абавязкова зьбіралася ў кучы і ня выпальвалася агнём уся плошча, бо пры гэтым згараць ня толькі маленькія ўсходы, але і апаўшае насеньне. Падчыстка павінна рабіцца, магчыма раней і абавязкова да 15-га траўня.

*Штучнае аднаўленьне*. Штучнае аднаўленьне лесу трэба рабіць на тых плошчах, на якіх нельга чакаць натуральнага аднаўленьня: на плошчах задзярвянелых, адсунутых ад сьпелых сьцен лесу (крыніц насеньня), пры вялікіх высечках, пажарышчах і г. д.

Перад засевам лесу неабходна ў кожным выпадку вырашыць пытаньне аб тым, якой дрэўнай пародзе адпавядае глеба данай плошчы. Засеў трэба рабіць тэй сталай матчынай пародай, якая была сьсечана; калі гэта не вядома, то на пескавой ці супескавой глебе (мясцовасьць высокая) плошчу належыць, бязумоўна, аблясіць хвойкаю. Хвоя ня вельмі пераборліва да глебы: яна ня любіць толькі балота.

Елка болей пераборліва да глебы: яна дрэнна расьце на пяскох, а таксама і на балоце. Лепшай для яе глебай зьяўляецца суглінак з даволі значнай колькасьцю перагною і здавальняючай вільготнасьцю. Што належыць да дубу, ясеня і клёну, дык гэтыя пароды патрабуюць вельмі добрай глебы—вільготнага глыбокага чарназему і ў крайнім выпадку сьвежага суглінаку з вельмі значнай колькасьцю перагною, у ніжніх пластох якога знаходзіцца досыць вільготнасьці.

Вось на гэтых падставах трэба вырашаць пытаньні пры выбары дрэўнай пароды дзеля культур.

Далей трэба высьветліць пытаньне, якім спосабам мэтазгодней зрабіць аднаўленьне лесу: *пасевам ці пасадкай*. У тым выпадку, калі маецца досыць насеньня і няма асобных прычын для пасадкі, трэба ўважаць пасеў. Ён бліжэй стаіць да натуральнага аднаўленьня лесу. Таксама пры гэтым спосабе магчыма болей правесьці культур на малыя сродкі і пры недахопе лесатэхнічнага пэрсоналу. Але ў некаторых выпадках пасадка зьяўляецца неабходнай, напрыклад, пры папаўненьні раней зробленага засеву, пры папаўненьні натуральнага аднаўленьня лесу і г. д.

У тым-жа выпадку, калі ў гадавальніку маецца пасадачны матар'ял, які можа перарасьці і загінуць, яго трэба скарыстаць пасадкаю.

**К. Іваноў.**

---

# Як замацаваць лятучыя пяскі.

У нас на Беларусі шмат пяскоў, якія прыносяць сельскай гаспадарцы вялікую шкоду. Як задзьме вецер, дык падымаюцца цэлыя хмары пяску і засыпаюць суседнія добрыя землі.

На лёгкай пескавой глебе ніяк ня можа ўкараніцца нават лес і пры першым ветры заносіцца пяском уся суседняя пахаць, гароды і інш. Вярба, так званая шалюга дае магчымасьць замацаваць пясок і тады ўжо разьвесьці лес. Для замацаваньня пяскоў ужываюцца два сарты шалюгі—*чырвоная* Salix acutifolia) і *жоўтая* (Salix daphnoides). Шалюга вельмі нядоўгавечна: праз 6—8 год яна пачынае засыхаць. Загэтым трэба праз гады 4-5 пасьля пасадкі яе выцярэбліваць: тады яна пускае парасткі і зноў укараняецца. Церабіць шалюгу лепш зімой, калі пясок мёрзлы і гаспадар мае больш часу. Праз 3-4 гады пасьля пасадкі 1 дзес. шалюгі дасьць ад 5—15 куб. саж. хмызьняку. Не далёка той ужо час, калі мы будзем ганяцца за гэтым хмызняком на апал, а ў бязьлесных раёнах ён бы і ўжо прыгадзіўся, бо там і цяпер шукаюць кіёк на пугаўе.

Шалюга пускае карэньне надзвычайна доўгае, паўзучае на некалькі сажняў ва ўсе бакі. Такім чынам, яна моцна сплятае верхні слой глебы і не дае ветру разносіць пясок. Калі-ж кусты пачнуць засыхаць ці высякуцца для абмаладжэньня, то карэньне перагнівае. Такім парадкам, з бясплоднага пяску пачне рабіцца паступова больш-менш урадлівая глеба, якая будзе зарастаць травой. У культурных краёх, дзе было шмат бясплодных пескавых пусташаў, пры дапамозе шалюгі перарабілі іх на карысныя ўрадлівыя глебы.

Для замацаваньня пяскоў разводзяць шалюгу зразкамі (чаранкамі), ці проста дубцамі. Распускаецца яна вясной вельмі рана, чаму зразкі трэба загатовіць яшчэ зімою і схаваць іх у халодны цёмны пограб ці лядоўню. Рана вясной, як толькі пясок адтае хоць на 3 вярш., ужо можна пачаць пасадку зразкаў шалюгі, і рабіць да таго часу, пакуль пясок пачне перасыхаць. Пасадку робяць так: ганяюць плугам барозны глыбінёю 3—5 вярш. на адлегласьці 2-3 арш. адна ад другой; у барозны кладуць галіны шалюгі і завальваюць пяском ад другое баразны. Калі гаспадар хоча ад пасадкі карыстацца дубцамі на пляценьне кашоў і іншых вырабаў, тады ганяюць барозны гусьцей, адна ад другой на 1—1½ арш. Барозны трэба праводзіць упоперак напрамку пануючых у данай мясцовасьці ветроў.

У нас на Беларусі барозны пойдуць з поўначы на поўдзень. Дубчыкі для пасадкі раяць ужываць трохгадовыя, яны лепш прымаюцца.

Пры такой пасадцы на адну дзесяціну патрэбна каля 1 куб. саж. дубцоў. Пры пасадцы трэба даглядаць, каб галінкі не цягаліся за плугам.

Калі ўвесь участак засаджаны шалюгай, то праз лета яна дае ўжо атожылкі, досыць моцныя для утрыманьня пяску. Цяпер паміж яе радкамі можна пачаць садзіць лес. Для гэтага трэба ужываць вядомага ўсім пескалюба-хвойку, якая садзіцца на аршын хвойка ад хвойкі. Садзіць трэба 2-х гадовыя хвойкі, якія можна дастаць у выхавальніку бліжэйшага лясьніцтва, дзе сажанцы дадуць дарэмна. Маладыя хвойкі возьмуцца ў сілу пакуль шалюга не пасохла (10—15), а калі пасохне, дык застанецца чысты сасновы дрэвастан.

Сяляне! Клапаціцеся аб палепшаньні зямлі, бо толькі такім шляхам мы пазбудзем малазямельле.*)

**М. Ш.**

---

# С.-Г. ХРОНІКА.

## Умовы прадажы насеньня ў 1927 г.

Прадажа насеньня Цэнтраземскладам праводзіцца за грошы і пасылкамі пры задатку 50 проц. цаны, а рэшта пры выкупцы пасылкі. Перасылка за кошт пакупца. Насеньне праверана Хлебнай Інспэкцыяй на ўсходжасьць і чыстату.

Цэны:

| Назва насеньня | За 1 кіло | За 100 гр. | За 10 гр. | Назва насеньня | За 1 кіло | За 100 гр. | За 10 гр. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Капуста белакач. | 5 р. 40 к. | 75 к. | 10 к. | Буракі кармов. | 1 р. — | 15 к. | — |
| Гуркі градковыя | 3 „ — | 40 „ | 8 „ | Турнэпс . . . | 1 „ 60 к. | 25 „ | — |
| Радыскі розныя | 3 „ — | 50 „ | 8 „ | **Травы:** | | | |
| Рэдзька . . . . | 2 „ 50 „ | 30 „ | 7 „ | Канюш. чырвон. | 1 р. 60 к. | — | — |
| Рэпа Пятроўская | 5 „ 40 „ | 75 „ | 10 „ | „ белая. | 1 „ 40 „ | — | — |
| Буракі сталовыя | 2 „ — | 25 „ | 6 „ | Цімафейка . . | — 68 „ | — | — |
| „ Егіпецкія | 2 „ — | 25 „ | 6 „ | Сэрадэля . . . | — 22 „ | — | — |
| Бручка кармовая | 1 „ 20 „ | 25 „ | 5 „ | Лубін . . . . | — 11 „ | — | — |

---

*) У арт. аўтара („Плуг“ № 1 стар. 37, 17 радок зьверху) надрукована „скрынак“, а трэба „скрыпак“ (Рэд.).

# Садоўніцтва

## Веснавая праца ў садзе.

У нас на Беларусі садоўніцтва займае даволі вялікую плошчу і прынясло-б гаспадарцы вялікую карысьць, калі-б не хваробы і шкоднікі. Вопытны садавод добра ведае сваіх ворагаў, ведае, што палову ўраджаю селянін губляе, дзякуючы шкоднікам і розным хваробам.

Шкоднікі ядуць кветкі, лісты і плады. Дрэвы робяцца кволымі і ня толькі ў год зьяўленьня шкоднікаў даюць значна меньшы ўраджай, але і ў наступным годзе ня маюць сілы. Шкоднікі ў садзе бываюць кожны год і калі ня весьці з імі барацьбы, яны нашчэнт загубяць сад. Плады заражоныя грыбнымі хваробамі губляюць сваю рыначную каштоўнасьць. Каб зьнішчыць шкоднікаў, трэба паляпшаць становішча сваіх садоў.



Апрысквацель.

1. Рана вясной дрэвы трэба ачысьціць ад старой кары і моху.

2. Абрэзаць (калі гэта ня было зроблена ўвосень) гальлё, на якіх ёсьць яйкі пярсьцёнкавага шоўкапрада.

3. Паздымаць лісты, якія засталіся з лета, бо на іх ёсьць гнёзды баярышніцы і латагузкі, паздымаць застаўшыяся плады, на якіх ёсьць грыбныя хваробы.

4. Аглядзець ствалы дрэў: там могуць быць жоўтыя падушачкі яек няпарнага шоўкапрада. Гэтыя кучкі трэба змазаць мешанінай карасіна з дзёгцем.

5. Усё сабранае з дрэў трэба сабраць у кучу і спаліць.

6. Ачышчаныя ад кары ствалы дрэў трэба абмазаць вапнай ці глінай. Нягашанай вапны трэба браць тры-чатыры фун. на вядро вады. Акрамя абмазкі ствала, трэба абпрыскаць усе галіны вапнавым малаком пры дапамозе апрысквацеля.

7. Лепей апрысквацъ дрэвы, калі лісты яшчэ не распусьціліся.

8. Аглядзець добра ўсе платы, каб не засталося і там яек ці зародкаў хвароб.

9. На ўсе ачышчаныя і абмазанныя дрэвы трэба налажыць клеявыя паясы на вышыні 1—1¼ арш. ад зямлі. Праз гэты пояс не перапаўзуць шкоднікі, як пладажорка і інш. Паясы трэба час ад часу аглядаць і зьнішчаць на іх шкодікаў. Паясы асабліва патрэбны, калі суседзі не вядуць барацьбы са шкоднікамі.

10. Наступнай працай зьяўляецца перакопка прыствольных кругоў.

11. Разам з перакопкай неабходна пакласьці ўгнаеньне—гной ці мінэральныя парашкі.

12. Калі ў мінулым годзе быў ябланавы доўганосік ці кветаед (кветкі не распускаліся, унутры іх быў маленькі чарвячок), то магчыма, што ён будзе і ў гэтым годзе. Гэтых жучкоў трэба страсаць з дрэва, зьбіраць і потым зьнішчаць.

13. Як толькі распусьціліся маладыя лісты, на іх кідаюцца розныя чэрві і адначасова з гэтым пачынаюць сваю дзейнасьць розныя хваробы—парша, гніль, іржа і інш. Адгэтуль зразумела, што вельмі карысна адначасова пачаць барацьбу з усімі шкоднікамі і хваробамі адразу. Загэтым да атруты, якая зьнішчае вусені, дадаюць яшчэ і такую, якая зьнішчае і хваробы дрэў.

Да гэтакіх атрут належаць бардоская жыжка. Калі зьявіліся зялёныя вошы ці тлі, апырскваюць табачным адварам ці зялёным мылам.

Такія працы павінны праводзіцца вясной у садзе.

### Мерапрыемствы Наркамзема ў барацьбе са шкоднікамі.

У мэтах найбольш плянавай працы па ахове саду ад шкоднікаў і хвароб, Наркамземам з 1925—26 г. пачалі арганізоўвацца абозы па барацьбе са шкоднікамі. У 1925-26 г. працавала 5 абозаў. У 1926-27 г. будзе працаваць 17 абозаў.

Кожны абоз будзе складацца з 2 апрыскваецеляў Памона, 10 ранцавых апрыскваецеляў і неабходнай колькасьці атруты для правядзеньня чаго запрашаюцца спэцыяльныя працаўнікі. Абозы будуць працаваць у акругах Менскай, Бабруйскай, Слуцкай, Магілеўскай, Віцебскай, Гомельскай і Рэчыцкай. У іншых акругах таксама ёсьць апрыскваецелі і атруты, якімі сяляне могуць карыстацца.

У 1924-25 г. было абслужана 1672 дзес. саду, у 1925-26 г. 2059,5 дзес., а ў 1926-27 г. мяркуецца абслужыць каля 4000 дзес.

Абозы працуюць на землях сялян бясплатна і толькі з гаспадароў зямлі непрацоўнага карыстаньня бярэцца плата.

Кожны селянін можа пазбавіцца ад шкоднікаў і хвароб расьлін захаваць свой ураджай. Для гэтага ён павінен зьвярнуцца да аграномa, да інструктара па садоўніцтву альбо непасрэдна да кіраўніка абозу.

Посьпех у гэтай працы будзе залежаць ад самаго насельніцтва, ад таго, які удзел яно будзе прымаць у гэтай працы.

**З. Сяргеева-Булаўка.**

---

# Парада пры гадоўлі дзічак.

*1. Аб насеньні дзеля падвояў.* 1. Дзічок—грунт, на якім будзе расьці пладовае дрэва яблыні; ён павінен быць вырашчаны з насеньня мясцовай дзікай лясной яблыні ці паляўкі, кісліцы. Лепшы дзічок дзеля ігруш будзе з насеньня дзікай ігрушы.

2. Насеньне здабываецца ўвосень з дасьпеўшых пладоў. Плады разрэзваюцца ўздоўж ці ўпапярок так, каб не пашкодзіць насеньне, якое выкалупваецца адтуль нажавым канцом. З 41 ¼ клгр. дзікіх яблык і з 57 ¾ клгр. ігруш выходзіць 408 гр. насеньня, у якім трымаецца каля 17 тыс. добрых зярнят.

3. Атрыманае насеньне лёгка прасушваецца ў цяньку, у прахладным памяшканьні, разасланым тонка на стале. Ня можна сушыць яго на сонцы ці на печы.

*II. Падрыхтоўка насеньня да сяўбы.* 4. Калі дазваляе час і месца, лепш пасеяць яго ўвосень у грады. У праціўным выпадку насеньне пяскуюць-стратыфіцыруюць.

5. Дзеля стратыфікацыі бяруць 3 аб'ёмы рачнога буйнага прамытага пяску і 1 аб'ём насеньня; ўсё гэта мяшаюць, увільгатняючы паволі вадою ці сьнегам.

6. Гэта трэба рабіць рана і не пазьней каляд.

7. Запяскаванае насеньне ссыпаюць у няглыбокую скрынку ці ў саган, а дзеля закопкі ў зямлю можна ссыпаць і ў палатняны мяшок, напаўняючы яго на палову, каб мяшок можна было распластаць.

8. У залежнасьці ад гаспадарчых умоў насеньне хаваецца ці ў паграбне, у халоднай яе частцы, ці ў стадоле, ці яго зарываюць у зямлю на узровень з паверхняю.

9. Трэба цьвёрда памятаць, што на гэтае насеньне вялікія ахвотнікі мышы. Скрынкі павіны быць прыкрыты ад мышэй.

10. Узімку разоў 2-3 насеньне пераглядаюць.

11. Вясною перад сяўбою нагляд за насеньнем павінен быць самы ўважны, за тым што яно можа раней, як трэба, прарасьці.

*III. Сяўба, падрыхтоўка град, скарацьба.* 12. Насеньне высяваюць раньняю вясною, як толькі аттала зямля і можна зрабіць грады.

13. Грады робяць 1 м. шырыні, 20 м. даўжыні і 13 см. вышыні, і на гэтакай градзе зьмесьціцца 500 грм. насеняня. Месца сяўбы павінна быць добра асьветлена, з добраю пульхнаю гароднаю страўнаю глебаю.

14. Лепшая глыбіня сяўбы каля 3 см.

15. Пры сяўбе на градзе робяць капаніцаю 6 баразён удоўж ці 120 упярок. Насеньне з пяском разьмяшчаюць так, каб на 4 см. баразны лягло 6 зярнят (і ня больш 10).

16. Гэткую гушчыню трэба даваць дзеля 1/2 насеньня і тагды рунь прыдзецца пікіраваць (перасаджваць).

17. Пікіроўка не заўсёды ўдаецца, а таму другую палову насеньня трэба пасеяць рэдка (2—3 зярняты на 4 см.) і гадаваць дзічкі без пікіроўкі.

18. Заскароджаную граблямі градку добра было-б пакрыць зьверху кампостам: ён захоўвае зямлю ад скарынкі і служыць пагноем.

19. Пасяуныя грады трэба абараніць ад птушак і іншае жывёлы.

20. Рунь зьяўляецца гледзячы па вясне, падрыхтаванасьці насеньня і часу сяўбы—на 10-20 дзень.

---

# Пладовы асортымэнт Мазыршчыны.

*Бойкэн*[1]). Гэты сорт у 1907 г. быў у мяне атрыман з Кіяву ад Крыстору чаранкамі і прышчэплен у карону старога дрэва антонаўкі (на старой сядзібе, якая бліжэй да мястэчка Капаткевічы). Праз 4 гады атрыманы былі першыя плады, якія былі захованы на паліцы ў склепе для апрабаваньня. Плады трымаліся да вясны і лежачы атрымалі пекную афарбоўку.

---

1) Трэба зьвярнуць увагу чытачоў Слуцк. і Мазыр. акр. на апісаньне пладоваго асортымэнту А. Сыцько, асабліва на сарты Бойкэн і Штэцін Чырвоны, якія маюць вышэйшую вартасьць у гандлі. (Рэд).

Пасьпяваць яблыкі пачалі ў лютым і для ўжываньня прыгодны былі ў сакавіку і красавіку (VI мес.). Асобныя плады Бойкэну магчыма захоўваць нават да верасьня. На Ўсесаюзнай с.-г. выстаўцы ў 1923 г. (у Маскве) 10 верасьня (XI мес.) пастаўлены былі яблыкі Бойкэну ўраджаю 1922 г.

Пасьля атрыманьня першых пладоў і прабаваньня іх на захаваньне, я пачаў прышчэпліваць гэты сорт (вочканьнем) у гадавальніку да дзічак мясцовай лясной яблыні і антонаўкі. Рост у гадавальніку быў сярэдні, але лепшы чым у антонаўкі. Рух сокаў рана сьпыняецца з восені, чаму драўніна Бойкэну вельмі моцная ў кліматычных умовах Мазыршчыны. Аднагадовыя прышчэпы добра вытрымалі зіму.

Высаджываліся прышчэпы 2-х і 3-х гадовага ўзросту; пасьля пасадкі праз 3—5 год былі атрыманы першыя плады, якія зноў паказалі сябе трывалымі пры захаваньні. Багатыя ўраджаі дае праз год. Пры недаглядзе за глебай і недахопу ўгнаеньня Бойкэн можа саўсім не даць ураджаю.

Ніколі нават у мокрыя гады, лісьце і плады Бойкэну ня пакрываюцца грыбком (Fisicladium). Плады роўнамерны па велічыні, моцна трымаюцца на дрэвах аж да паловы кастрычніку. Калі лета ня мокрае і сонечнае, то яблыкі Бойкэну растуць буйныя і вельмі прыгожа афарбованы. Наадварот, калі многа-дажджоў, а сонца грэе скупа, плады робяцца пухкімі і не трывалымі пры захаваньні[1]).

Зьнімаць яблыкі патрэбна ў пару „знімальнай сьпеласьці“, калі колер робіцца бледна-жоўтым і наогул увесь плод атрымлівае бліскучы глянец.

У цёплае і сонечнае лета яблыкі пасьпяваюць на 2 тыдні раней (у канцы верасьня); у няспрыяючае лета ў другой палове кастрычніка.

Без пары зьнятыя плады (зеленаватыя) паложаныя на захаваньне трохі вянуць і пры дасьпяваньні адчуваецца востры збытак кіслі. Бліжэй да вясны робяцца больш цукрувымі. Дрэва Бойкэну вялікае, кулістае значнай гушчыны карона. Сукі ня ломкія. Аднагадовыя галінкі—шэрыя тоўстыя з кароткім міжвузельлем і значнай велічыні шэрымі кветкавымі пучкамі.

У мяне ў садзе 52 дрэвы Бойкэну; амаль ўсе моцныя, добра ўраджайныя. Зацьвітае трохі пазьней нашых звычайных сартоў, але лісьце скідае позна, асабліва пасьля вільгатнай восені.

На працягу 20 год у маім садзе не наглядалася прымярзаньня канцоў аднагадавых галінак кароны.

(Капаткевічы, Мазырск. акр.). **А. Сыцько.**

# Догляд пчол у канцы зімы.

Канец зімы для пчол зьяўляецца самым небясьпечным, асабліва сакавік месяц і аж да выстаўкі пчол. К вясьне пчолы пачынаюць абуджацца, робяцца больш рухавымі. Пчолы больш зьядаюць мёду. Тэмпэратура ў вульлі падымаецца да 36°. З вульля чуваць шум. Ляткі зранку аб'іньваюць. У гэты час пчолы павінны быць забясьпечаны кор-

[1]) Плады Бойкэну ў мяне на пясчанай і сухой глебе значнай велічыні, вельмі пекна афарбаваны, з сонечнага боку—яскрава чырвоная водцень. Плады трохі рабрысты; мякаць белая і моцная, квасная на смак (у студзені).

мам. Каб ведаць, у якім становішчы знаходзяцца пчолы, трэба выслухваць штодня ці гўдуць яны. Калі яны заціхаюць, гэта значыць, што пчолы галодныя і ім трэба дапамагаць. Ім трэба даваць сухога корму—кармовых плітак альбо кандзі. Нічога рэдкага даваць нельга, бо ў пчол могуць захварэць жываткі.

Калі хто ня ўмее зрабіць кармовых плітак, то можна даваць пчолам кускі вашчыны з мёдам; класьці яе трэба на рамкі.

Калі пчолы зімуюць у амшаніку, то трэба глядзець, каб ім ня было дўшна. Ад духаты пчолы хочуць выбіцца з вульля. Таксама шкодны для пчол і холад; інакш яны шмат сілы трацяць, каб абагрэць вулей і дзетак.

Калі пчолы зімуюць на волі, трэба ляткі прыценьваць дошкамі, каб праз іх сонца не сьвяціла, ды не заманьвала пчол з вульля. Амшанік трэба заўсёды праветрываць. Як зусім пацяплее, карысна штодня дзьверы нанач пакідаць адчыненымі. А як гэта не паможа, то трэба паздымаць усё, чым укрыты быў вулей, а толькі на рамах пакінуць палатно. Калі-ж пчолы сьціхаюць гусьці, то на дошку, што прыбіта каля ляткоў, кладуцца кусочкі сьнегу. Бывае так што ўсе гэтыя захады не памагаюць і пчолы гудуць; тады ясна, што ў самым вульлі непарадкі: альбо маткі ў вўльлі няма, альбо пчолы ядуць дрэнны мёд і хварэюць на пранос.

Дзеля гэтага ў першы цёплы дзень трэба даць пчолам абляцецца. Дзе будзе ставіцца вулей, насьцілаецца салома на сьнягу. Сям'я для аблёту выносіцца на пасеку. Баяцца, што шмат пчол застыне, ня варта. Хворыя пчолы далёка не адляцяцца. Пасьля аблёта іх зноў трэба занесьці ў амшанік. Так ратуюцца ўсе пчолы захварэўшыя праносам перад вясной, а захварэўшыя ў сярэдзіне зімы звычайна гінуць.

Безматачныя сем'і лепш вынесьці з амшаніка, каб яны другія вульлі ня будзілі.

Перад выстаўкай пчол на пасяцы трэба для іх падрыхтаваць месца, бо сама выстаўка павінна рабіцца хутка, пад наглядам пчаляра, які мусіць сачыць за аблётам пчол. Усе кіёчкі, на якіх стаялі вульлі, папраўляюцца. Бывае часамі на пасеках шмат сьнегу; каб ён хутчэй растаў, яго можна пасыпаць попелам. Лёд, калі ён ёсьць, трэба ўзламаць. Да моманту выстаўкі пчол пасека павінна быць чыстай ад сьнегу.

Сел.-пчаляр **А. Магучы**.

---

# Як карміў я пчол зімою 1925-26 г.

Пасека мая была разбурана, затым мне прышлося праз некалькі год падрад вясьці раёвую гаспадарку. Так было і летам 1925 г. Сем'і пчол я раіў штучным спосабам. Амаль што ад кожнай сям'і прыходзілася браць па два, тры раі. Лета тады было дажджлівае і для пчол вельмі няспрыяючае, бо акурат падчас збору мёду дождж ліў бязупынна. Слабыя сем'і мае к зіме не маглі сабраць і палавіны запаса мёду. Пчолам патрэбен корм, а мёд купляць дарага. Прышлося карміць іх цукровай сытою. Дзеля таго я браў цукровы пясок—адна частка вады на дзьве часткі цукру. Такая мешаніна кіпяцілася на агні, аж пакуль увесь цукар не распускаўся. Большая палавіна пасекі кармілася гэтай сытой. У канцы лета пчолы здолелі добра запячатаць яе на зіму. Некалькі сем'яў прышлося падкормліваць даволі позна. Для

таго, каб у іх такі корм на зіму не зацукраваўся, я ў яго дабаўляю вінокаменную кіслату (на 12 ф. падкормкі 1 залатнік кіслаты).

Позьні корм, як я і чакаў, пашоў у зіму незапячатаным пчоламі. З усяго ліку пчол пашлі на зімоўку з недахопам корму чатыры сям'і.

Пчолы зімавалі ў амшаніку і ўсю зіму адчувалі сябе добра, што я заўважыў выслухваючы іх кожны тыдзень. У канцы зімоўкі (сярэдзіна сакавіка) чатыры сям'і, якія былі ня зусім падкормлены, сталі галадаць. Прышлося іх зімою карміць. Для гэтага я варыў кармовыя пліткі з цукровага пяску. Пліткі клаліся на рамкі пад пакрышку вульля. Так я іх карміў, аж пакуль ня выставіў на пасеку. Дзеля таго, што мёду не хапала, кандзі я мог падрыхтаваць вельмі мала. Тыдняў за два перад выстаўкай пчол, я ў адзін вулей даў рэдкай цукровай сыты, але не такой густой, як даваў увосень. Праз тры дні пчаліная сям'я пачала шумець. Пчолы пачалі выбівацца з ляткоў і брудзіць знадворныя сьцены вульля (усе адзнакі праноса). Тут адзіны паратунак—гэта аблёт пчол. Як на шчасьце ў гэты раз адзін дзень акурат удаўся цёплы і добры. Я тады вынес сям'ю на пасеку. Кругом вульля на сьнягу накідаў саломы і адкрыў ляток. Пчолы абляталіся ня вельмі добра, бо было яшчэ халаднавата і ветрык праймаў трохі. Далёка пчолы не адляталіся, некаторыя нават з вульля ня зьляталі. Праз гадзіну пчолы зусім супакоіліся, але я вулей пакінуў на месцы да вечара.

Далей я даваў гэтай сям'і толькі сухі корм, хаця можна было даваць ёй і рэдкі, бо жываткі пчол прачысьціліся. Сям'я адчувала сябе добра; толькі пры выстаўцы вясной была аслабленай. Рэшта сем'яў абляцелася жвава. Адна сям'я (№ 2) была вялай, бо яна страціла матку.

Наогул жа кажучы, зімоўка прайшла добра; мёртвых пчол было мала. Лепш за ўсіх перазімавалі сем'і, што палучылі корм у канцы лета. Тыя-ж, што падкармліваліся позьняй восеньню, мелі больш мёртвых пчол (падмору). Больш за ўсіх падмору мела сям'я № 2 (безматачная) і № 4 (захварэўшая праносам).

Летам працавалі пчолы ня ўсе аднолькава. Лепш здабывалі мёд тыя пчолы, што мелі свой запас корму на зіму. Дрэнна працавалі сем'і, якія ўзімку елі незапячатаны з восені корм. Найгорш было з сем'ямі № 4 і № 2. Першая адчувала сябе хворай, а № 2 пачала працаваць толькі тады, калі ёй далі рамку адкрытай чарвы, дзе пчолы залажылі сабе матачнікі. Чарвы было найбольш у тых сем'ях, якія мелі больш мёду. Адгэтуль вынікі такія:

1. Лепшым кормам для пчол зьяўляецца добры мёд.
2. Калі-ж прыходзіцца падкармліваць пчол цукровую сытою, то трэба класьці яе загадзя, каб пчолы пасьпелі ў канцы лета яе запячатаць.
3. Корм класьці можна толькі ў канцы лета альбо ў пачатку восені, а не чакаць да зімы.
4. Корм даваць толькі густы, а ня рэдкі, ад якога пчолы хварэюць праносам.
5. Кандзі і кармовыя пліткі ў роўнай меры зьяўляюцца добрым кормам на зіму.

Сел.-пчаляр **А. Магучы.**

# СЯЛЯНСКІ ДОСЬЛЕД

## Пашырайце сялянскі досьлед.

У бягучым годзе ў працы сялян-дасьледчыкаў найбольш пільнымі зьяўляюцца два пытаньні:

а) організацыя дасьледчай працы з матар'яльнага боку і другое—б) больш паглыблены падыход да гэтай працы наогул.

У першым выпадку селянін прымушан у час прыдбаць сабе патрэбных матар'ялаў, насеньня і купіць мінэральных угнаеньняў. Вядомая рэч, што ўсе гэтыя матар'ялы трэба здабыць мажліва раней. Тут я лічу адзначыць толькі адно, што на вывучэньне мінэральных угнаеньняў трэба зьвярнуць больш увагі, хаця цэны на іх яшчэ і высокія.

Вывучаць іх трэба ня толькі таму, што ў нашых умовах гаспадараньня мінэральныя гнаі значна павышаюць ураджай, а і таму, што мы, напэўна, стаім на пярэдадні тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы.

*Організацыя калійнага трэсту на Салікамскіх залежах* калійнай солі і шырокае разьвіцьцё савецкай хімічнай прамысловасьці з адначасовым яе ухілам у бок вырабу с.-г. угнаеньняў праз трычатыры гады могуць даць нам мінэральныя гнаі ў два разы дзешавей.

Вось гэты факт і яшчэ раз прымусіць па іншаму падыходзіць да культуры лёну, караньплодаў, бульбы, канюшыны і інш., бо гэтыя расьліны найбольш даходны пры мінэральных угнаеньнях. А ўсё гэта і кажа, што пашырэньнем і ўсебаковым вывучэньнем мінэральных угнаеньняў трэба займацца і зараз. Пажадана мінэральныя ўгнаеньні вывучаць пад больш інтэнсыўнымі расьлінамі, а таксама прымяняць іх на сенажаці, у гародзе і садзе.

Аднак, ня менш увагі патрабуюць і нашы мясцовыя сродкі ўгнаеньня (торф, лубін, вапна, попел і інш.).

Другой групай пытаньняў у сялян-дасьледчыкаў павінна стаяць кармовае пытаньне. Пара ўжо кончыць нашаму селяніну з бяскорміцай. Трэба даць месца караньплодам, канюшыне, сэрадэлі, занятаму папару. Трэба падвоіць ураджай сена.

Трэцяй групай—будуць пытаньні палявой гаспадаркі, як пасеў чыстым і сартовым насеньнем, лепшы выраб поля (раньні папар, лушчэньне, пажніўны лубін) і праца па організацыі насеннай справы (гадоўля насеньня караньплодаў, траў, сартовага збожжа і інш.).

Якія іменна тэмы браць селяніну-дасьледчыку, вызначаць тут падрабязна ня будзем, яны пералічаны ў „Плузе“ № 3 (15-17 стар.) і № 8 (стар. 11-13) за 1926 г., дзе кожны новы дасьледчык і можа выбраць сабе тэму.

Тут мы для прыклада паказваем, як пабудаваць схэму вопыта*).

---

*) Чым больш лік сялян заложаць свае досьледы па аднолькавай схэме, тым лепш будзе ацэньваць вынікі досьледа.

Схэма 1. Чатырохпольле.

| Дзялянкі | 1-я зьмена—папар. | 2-я зьмена—азімае. | 3-я зьмена—асыпныя. | 4-я зьмена—ярына. |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Гною 2.400 пуд. (кантроль). | Жыта. | Бульба і караньплоды. | Ячмень. |
| 2. | Гною 1.200 пуд. | | (Дадаткова 1.200 п. гною). | авёс. |
| 3. | Гною 600 пуд.—торфу—1.200 п. | | | |
| 4. | Выка-авёс на корм (1200 п. гною). | | | |
| 5. | Папар бульбяны (1200 п. гною). | | | |

Па гэтай схэме кожны год досьлед закладваецца толькі ў аднэй (папарнай) зьмене, вучот робіцца на жыце, а далей на асыпных і ярыне ўчытваецца уплыў розных папараў і ўгнаеньняў на другі і трэці год.

Схэма вопыта павінна ставіць пытаньне, на якое дасьць адказ расьліна.

Пытаньне ставіцца выразна.

Кожны досьлед трэба праводзіць некалькі год. Таксама неабходна дасканала выпаўняць агульныя правілы пастаноўкі вопыта (гл. „Плуг“ № 4 1926 г. стар. 22-23).

Ідэю сялянскага досьледа патрэбна пашырыць мажліва шырэй. Адзін, два вопыты можа правесьці амаль кожны сьвядомы селянін і мець выразны адказ ад расьліны, як лепш гаспадарыць ва умовах свайго раёну. Сялянскім досьледам можа заняцца кожны член с.-г. гуртка, кожны культурны і сьвядомы гаспадар. *) **С. Тупяневіч.**

# Як ставіць вопыты па скарыстаньню торфа на ўгнаеньне.

Павялічэньне ўраджаяў—чарговае пытаньне. Лепшая апрацоўка глебы, севазварот, сартаваньне насеньня, угнаеньне і інш.—усё гэта шляхі к лепшаму ўраджаю. З гэтых шляхоў больш вядома для селяніна ўгнаеньне глебы, але толькі адным гноем. А гною ў нас не хапае і трэба яго чым небудзь замяніць.

Лягчэй усяго гной замяніць мінэральнымі ўгнаеньнямі—супэрфосфатам, тамасаўкаю, салетрай, калійнымі солямі і інш., як гэта робяць на захадзе.

Пакуль што ўжываць мінэральныя ўгнаеньні ў значным ліку пры слабай хэмічнай прамысловасьці мы ня можам і прымушаны шукаць другіх спосабаў, каб скарыстаць сырыя матар'ялы. Тут заслугоўвае вялікую ўвагу торф. Трэба толькі навучыцца карыстацца ім. Торф мае каля 2-3 проц. азоту (гной—каля 0,5 проц.) і можа служыць, *як азоцістае ўгнаеньне, як растварыцель фасфарыту, як крынка арганічнай масы для глебы.*

---

*) Аб усіх закладзеных досьледах і выніках ранейшых досьледаў трэба паведаміць рэдакцыю „Плуга“. (Рэд).

Для падрыхтоўкі торфу, як угнаеньня, яго праводзяць праз скотны хлеў, або кампастуюць з рознымі с.-г. адкідамі, попелам, вапнай і фасфарытам.

Тут скажам, як зрабіць з торфу гной, а таксама, якія патрэбна залажыць з ім вопыты. Трэба адзначыць, што часта, напрыклад, на пясковых глебах торф дае дрэнныя вынікі, прычыну якіх патрэбна высьвятляць.

Лепш за ўсё торф праводзіць праз скотны хлеў, каб скаціна яго перабіла і змачыла. Для гэтага з вясны трэба навазіць торфу ў хлеў прыблізна на 1 арш. таўшчынёю. Паверх паслаць саломы, каб не брудзілася скаціна; калі скаціна мала прамачвае торф, то трэба палі-ваць памыямі. Праз некалькі часу торф будзе гатоў для вывазу на поле.

У часе набіўкі торфу ў хлеве надта яго добра перамяшаць з попелам, вапнаю ці фасфарытам.

Вясною ў гэтым годзе можна навазіць торфу ў хлеў, каб пад жыта мець добрае ўгнаеньне. Можна падрыхтоўваць торф і ў кампосных кучах.

Вясною можна залажыць вопыты з сырым торфам, калі ён ёсьць у гаспадарцы, а таксама і торфам, які з восені набіты ў хлеў.

На першы пачатак трэба раіць такія простыя схэмы для закладкі вопытаў:

Схэма 1. (4 дзялянкі).

1) без угнаеньня; 2) торф—2400 п. на дзес.; 3) гной 2400 п. на дзес.; 4) торф 2400 пуд.+попел 12 п. на дзес.

Схэма 2. (3 дзялянкі).

1) без угнаеньня; 2) тарфяны гной 2400 пуд. на дзес.; 3) саломены гной 2400 п. на дзес.

Схэма 3. (3 дзялянкі).

1) без ўгнаеньня; 2) кампост 2400 п. на дзес. (торф+фасфарыт або торф+попел ці вапна); 3) гной 2400 п. дзес.

Схэма 4. (3 дзялянкі).

1) без угнаеньня; 2) торф 2400 п. на дзес.; 3) гной 2400 п. на дз.

Па гэтым схэмам можна залажыць вопыты з торфам. Пажадана, каб дзялянкі пры вопытах былі па 60 кв. саж. з двайным паўтарэньнем.

Неабходна пры вопытах весьці падрабязны запіс. Неўдачныя вопыты адзначаць, каб можна было высьветліць прычыну гэтай няўдачы. Толькі такімі вопытамі можна будзе высьвятліць значэньне торфу, як угнаеньня.

*Літаратура* па пытаньню скарыстаньня торфу і па закладцы вопытаў: часопіс „Плуг“ за 1925 г. № 1 (стар. 5—7), № 7 (стар. 9—10), № 5 (стар. 3—4); за 1926 № 4 (стар. 22), кніжка „Сто пудоў ураджаю“ Выд. БДВ.

**П. Трус.**

# Як палепшыць сенажаць.

У якім становішчы знаходзяцца нашы лугі — вядома кожнаму. Мы палучаем са сваіх лугоў сена ў пяць разоў меней, чым палучае замежны земляроб, які хоць крыху клапаціцца аб сенажаці. У сярэднім у нас сяляне са сваіх лугоў палучаюць ня болей 60—70 пуд., а сярэднія заграцічныя ўраджаі 250—300 пуд.

Дасьледчыкі-лугаводы, вывучаўшыя становішчы нашых лугоў, устанавілі, што самымі простымі прыёмамі можна павялічыць ураджай сена ўдвое, а калі правесьці палепшаньне лугоў, то ня толькі паднімаецца ўраджай у тры або чатыры разы, але і якасьць сена з палепшаных лугоў будзе лепшай. Гэтыя звычайныя спосабы палепшаньня лугоў не патрабуюць нічога, акрамя працы. Адсюль зразумела, што яны зусім даступны сялянству. Розьніца толькі ў тым, што палепшаньне лугоў не пад сілу аднаму земляробу, тут ужо павінен працаваць колектыў. Нельга выганяць жывёлу на сенажаці рана вясной, калі зямля праз меру вільготна і ўвосень, калі пад уплывам асеньніх дажджоў зямля зноў робіцца вільготнай. Але і гэта простае сустракаецца ў нас вельмі рэдка. Справа ў тым, што к канцу зімы сялянская жывёла бывае да таго зморана голадам ад недахопу корму, што сяляне хутчэй выганяюць кароў з хлева на траву. Чакаць да таго часу, калі сенажаці хоць крыху падсохнуць пры такой нястачы корму ня магчыма. Таксама і ўвосень. Ведаючы, што корму для жывёлы ня хопіць, сяляне імкнуцца датрымаць скаціну ў полі да апошняй магчымасьці.

Вельмі раньні выган скаціны на лугі вясной і паша да позьняй восені, моцна псуе іх. Скаціна выбівае капытамі ямкі у якіх застаецца вада. Ямкі гэтыя паступова начынаюць абрастаць мохам, які ўсё болей і болей засяляе луг, у выніку чаго зьяўляюцца купіны. Колькасьць салодкіх, больш спажыўных траў з кожным годам зьмяняецца, а сьметнякі (сарніны), якіх нават галодная жывёла не чапае, разрастаюцца. Сена такой сенажаці становіцца грубым, неспажыўным.

У шмат якіх вёсках былі пастаўлены досьледы палепшаньня такіх сенажацяй. Першая група досьледу, якія рабіла наша вёска, была ў тым, што жывёлу выганялі толькі тады, калі сенажаць добра прасохла і то на тыдзень. Другая група—зусім ня пушчала жывёлу вясной на сенажаць. Вынікі гэтых досьледаў такія: на сенажацях першай групы колькасьць сена павялічылася з дзесяціны на 30 проц., а другой на 50 проц.

Дзе-ж пасьвіць у гэтым выпадку жывёлу—пытае селянін. Адказ на гэта можа быць—вялікі фонд так званых „бросавых зямель“. Гэтыя землі моцна парасьлі хмызьняком, мохам верасам. Іх яшчэ шмат у нас застаецца ня выкарыстанымі нават для выпасу жывёлы.

**Я. М. Савіцкі.**

# Сейце канюшыну сваім насеньнем.

*(З досьледу).*

Выпадкі вымярзаньня канюшыны за апошнія гады можна сустрэць часта. Гэтае зьявішча адбівае ахвоту ў селяніна сеяць такую карысную расьліну. Гэта здарылася ў мінулым годзе і ў нашай вёсцы. Асабліва пацярпела канюшына апошняга году карыстаньня (у нас карыстаюцца 2 гады). Галоўнай прычынай гэтаму будзе тое, што мы сеем замежным насеньнем, якое не пераносіць нашых кліматычных умоў. Але з гэтым зьявішчам нельга павясьці барацьбу. Першае, што патрэбна, гэта сеяць сваім насеньнем; падругое, неабходна сеяць канюшэну з цімафейкай, бо першы год, калі канюшына яшчэ ня так выпадае, цімафейка дае лепшы ўкос.

На другі год яна кусьціцца і дае большы ўкос, што добра ў тых выпадках, калі канюшына выпадзе.

Гэтыя два мерапрыемствы неабходна праводзіць у гаспадарцы і тады толькі, пасеяўшы канюшыну будзем забясьпечаны добрым кормам.

**Сел. М. Тарасенка.**

## Як выручыла мяне сэрадэля.

У 1925 г. я засеяў ½ дзес. канюшынай, пад якую выбраў нізаватае месца. Насеньня я купіў у Менску на складзе Наркамзема (20 фунт.). Канюшына была чырвоная 2-х укосная з Чэхаславакіі. Яна добра ўзышла і да зімы мела добры выгляд. Але з зімы вышла дрэннай. Заставалася канюшына толькі там, дзе было вышэй. Вясною ў 1926 г. я сеяў побач чыстую сэрадэлю. Поле было там без сарнякоў. Для спробы ў той-жа самы дзень на вымакшых мясьцінах канюшыны я пасеяў сэрадэлю. Пры сяўбе сэрадэлі, як чыстым высевам, так і па канюшыне. Норму насеньня разьлічваў да 4 п. на дзес. Пабаранаваў я сэрадэлю і канюшыну ў 2 сьляды бараны. Далей я пачаў назіраць за сваім вопытам. Сэрадэля пры чыстым высеве скарэй абышла і пашла ў рост на канюшыне яна абышла крыху пазьней, і ў першы месяц расла марудней. А пры першым укосе канюшыны сэрадэля толькі пакрыла зямлю, але ўжо к другому укосу канюшыны сэрадэля яе перарасла і на 25 проц. перавышала ураджай сэрадэлі пры высеве.

Увосень-жа 1926 г. ў „Дзень Ураджаю" гэту сэрадэлю з канюшыны я вазіў на выстаўку і знаёміў сялян з вопытам скарыстаньня вымачак. Гэты спосаб раю ўсім сялянам сеяць сэрадэлю тым больш, што яна выручае гаспадара, якому ня хочацца застацца зусім без канюшыны. Сярадэля тут можа дапамагчы.

Падкрэсьліваю, што ў мяне сяміпольле і канюшына на другі год застаецца на выпас жывёлы.

Сел. **К. Запольскі.**

## Якую карысьць прыносіць лубін.

Ужо пяць гадоў, як мы ў сваёй гаспадарцы сеем лубін. Па савету агранома першы год мы пасеялі лубін у папары, поле ў нас вельмі пясчанае, але лубін парос добры. Увосень мы яго заaралі і пасеялі жыта. Жыта парасло лепшае, чым суседняе на гнаі. У той-жа год пасеялі невялічкі кавалак лубіну і на насеньне. Сабралі насеньня пудоў 5. На другі год таксама пасеялі лубін і поле ўжо заразілі зямлёй, на якой рос лубін. Парос ён вельмі добра на гэты раз. Частку заaралі пад жыта, а частку заaралі ўвосень і так заставілі да вясны. Вясною на тым полі, дзе быў уворан лубін пасеялі бульбу, якая парасла на дзіва.

Дык вось, сяляне, у каго пясчанае поле сейце лубін і ўбачыце, якая вялізарная карысьць ад яго.

**Сел. М. Карунчык.**

(В. Сьвятое Жлобінскага раёну).

# ЗЕМЛЯЎПАРАДКАВАНЬНЕ

## Мэліярацыя ў Гомельшчыне.

Нядаўна далучылася да Беларусі частка Гомельшчыны. Па сваёй сельскай гаспадарцы і па мэліярацыі яна нічым ня розьніцца ад старое Беларусі. Усё тыя-ж абшары балот, лёгкія пескаватыя глебы і пяскі. Уся забалочанасьць 2-х акруг далучаных да Беларусі, складае 334.169 гэкт. альбо 22,9 проц. усяе плошчы зямлі.

Ясна, што такая моцная забалочанасьць перашкаджае весьці гаспадарку. Трэба шмат працы ўлажыць, каб дастаць з балота сена і пасьля зімою вывесьці яго, бо толькі ў гэты час і можна гэта зрабіць. З аднаго гэктару можна набраць 50-70 пуд. грубае асакі, якой прыходзіцца даваць вельмі шмат, каб накарміць скаціну.

Некаторыя раёны Гомельскай і Рэчыцкай акруг настолькі забалочаны, што па гэтых балотах толькі на паасобных паўвыспах могуць жыць людзі і весьці сваю гаспадарку. Дзеля таго на мэліярацыю ў Гомельшчыне была зьвернута асаблівая ўвага.

На чале ўсёй працы па мэліярацыі стаялі самі сяляне. Яны яшчэ задоўга да таго, як пачалася мэліярацыя, часамі няўмела, капалі канавы, каб адвесьці ад зямлі ваду і тым выратаваць яе ад забалочанасьці. Брагінскія балоты Рэчыцкае акругі, усе пазрэзваны канавамі, праведзенымі без усялякага пляну.

Пасьля Рэвалюцыі мэліярацыя ў Гомельшчыне адразу была пастаўлена на правільны шлях. Пачалася організацыя насельніцтва ў мэліярацыйныя Т-вы. Пачалася рабіцца чыста тэхнічная дапамога сялянству ў працы па асушэньню балот.

І трэба сказаць, што без асобных патуг пачаўся мэліярацыйны рух сярод сялянства. Яно бачыла, як дзяржаўныя лясныя дачы асушаліся і якія сенакосы пасьля асушкі іх зьяўляліся.

Запатрабаваньні на мэліяратараў былі вялікія і бязумоўна ўсе задаволены быць не маглі.

У сучасны момант ў Гомельскай і Рэчыцкай акругах усяго ёсьць 99 мэліярацыйных таварыстваў на балотнай плошчы 14.781 гэкт. з 9.145 членаў-гаспадароў, што складае 9,3 проц. усяго ліку двароў. Амаль што ўсе гэтыя таварыствы ўваходзяць у сельска-гаспадарчую коопэрацыю, усе яны былі правераны і аказаліся працаздольнымі нізавымі вытворчымі коопэратывамі, якія хочуць колектыўна палепшыць свае балоты.

Мэліярацыйнай працы заўсёды парашкаджала тое, што некуды было дзяваць ваду. Рэчкі, якія там цякуць, вельмі мелкія, зарослыя і берагі іх надта нізкія. Дзеля гэтага разам з організацыяй мэліярацыйных т-ваў былі наладжаны работы, каб прывесьці ў належны парадак рэчкі. Былі пачаты работы над рэчкай Брагінай Рэчыцкае акругі і Узой

Гомельскае акругі. Цяпер гэтыя рэчкі ўжо асушаны і ёсьць магчымасьць асушваць балоты, якія прылягаюць да гэтых рэчак.

Далучэньне Гомельшчыны да Беларусі дасьць яшчэ больш магчымасьці самадзейнасьці сялянству. Селянін адважна пойдзе на барацьбу з балотамі, узброены рыдлёўкай. Дзікія балоты будуць пераároблены на добрыя сенажаці і пахату, шляхам асушкі і культуры. **А. У.**

# Як лепш будавацца.

„Будавацца і прававаца—найтруднейшыя дзьве справы для гаспадара-земляроба“. Так кажа старая беларуская прыказка. І запраўды, цягаючыся па судох, не адзін гаспадар руйнуе сваё здароў'е і сваю гаспадарку, а таксама ня раз і *будаваньне* некалькі год не дае гаспадару, пры ўсёй яго старраннасьці і руплівасьці, апраавіцца і *стаць*, як гавораць, *на моцныя ногі*. Вось дзеля гэтага, што будаваньне патрабуе значнай затраты працы, грошай, матар'ялаў, падчас на ўбытак самай гаспадарцы, земляробу, перш чымся з „налёту“ брацца за будоўлю, і трэба добра абмеркаваць усе магчымасьці. Гэта значыць, добра ведаць тую мясцовасьць, дзе мае быць пабудавана сяліба, добра разрахаваць сілу сваёй гаспадаркі (колькі хочаце трымаць коняй, кароў, авечак, сьвіней, які спадзяецеся мець ураджай і г. д.), абмеркаваць расклад паасобных будынкаў у сялібе, велічыню кожнага будынку і г. д. Гэта ўсё трэба добра абмеркаваць, бо справа робіцца не на год і каштуе ня мала.




**Мал. № 1.** Разьмеркаваньне будынкаў.

Але паўстае пытаньне: нашто гэтулькі абмяркоўваць, калі нашыя бацькі, дзяды будаваліся і жылі, на што ўсё гэта патрэбна і хто ў гэтым




**Мал. № 2.** Разьмеркаваньне будынкаў на ходу ветра.

дарадзіць? На гэта трэба сказаць, што раней лесу было болей, ён быў дзешавей, а парады ня было каму даваць, бо ў гэтым ня былі зацікаўлены ні пан, ні царскі чыноўнік, бо гэта „мужыка“ магло-б рабіць

разумным; ён жыў-бы здаровым, у сьветлай хаце, а таксама гадавалася-б яго жывёліна ў добрым хлеве—што вядома не на руку паном і царызму.

Цяпер-жа Ўлада Рабочых і Сялян, якая, як вядома, дбае аб гэтым „мужыку“, праз газэты, часопісі і паасобныя кніжкі дае парады, тлумачэньні земляробу-гаспадару па таму ці іншаму пытаньню.

Вось часопісь „Плуг“ на сваіх старонках і думае некаторыя пытаньні „як лепш будавацца“ высьветліць сваім чытачом.

Пачну з таго, *як трэба абіраць месца пад сялібу*. Калі глянем на мал. першы, то заўважым, што месца пад сялібу выбрана так, што і балота як быццам блізка, а аднак будынкі разьмеркаваны і нават




Мал. № 3· Плян будынкаў сялібы.

раіцца так будавацца. І ўсё гэта не выпадкова: узяты горшыя умовы і паказана, як да гэтых умоў лепш усяго прыстасавацца. Хата стаіць лявей хлявоў, а ўсе будынкі таксама лявей балота, улева-ж ад сялібы нарысаваны стрэлкі з надпісам „кірунак ветру“ — гэта якраз і важна. Ведама кожнаму, што ў нас вятры дуюць у пэўную пару году, часьцей усяго з пэўнай старонкі, вось трэба, каб гэтыя вятры ня дулі з балотаў і перш на хлеў, а пасьля на хату, бо гэтакім чынам вятры будуць прыносіць вільгаць, камароў, мух, смурод ад гною хлявоў і г. д., так што і вакна ня можна адчыніць, а гэта усё дрэнна адбіваецца на здароў'і сталых людзей, а тым больш на здароў'і дзяцей. Вось чаму належыць добра агледзіць мясцовасьць вярсты: на 2—3 навокал будучай сялібы і прыняць сказанае пад увагу.

Цяпер, глянуўшы на малюнак 2, заўважым пэўную чарговасьць з права налева: — „А“ — студня, „Б“ — хата, „В“ — хлеў, „Г“ — канава, „Д“—гнаёўня. Гэта чарговасьць не выпадковая, але калі мы зьвернем увагу на рэльеф (профіль) мясцовасьці, то заўважым, што студня знаходзіцца на найвышэйшым месцы, яно паступова паніжаецца ў бок гнаёўні. Усё гэта трэба разьмяшчаць на абраным няроўным месцы пад сялібу дзеля таго, каб вада ад хаты, хлявоў і г. д. сьцякаючы па паверхні зямлі, не трапляла ў студню, а канава „Г“, каб перахапляла ваду ня толькі з паверхні,—але і глыбейшую, асабліва тую ваду, якая можа сьцякаць ад кучы гною (гнаёўкі).

На мал. 3-м паказан плян паасобных будынкаў і плошча зямлі, якая патрабуецца пад пабудовы і двары. Прыблізна гэта плошча каля $^1/_8$—$^1/_{10}$ дзесяціны. Тут прыняты пад увагу чысты двор і двор для скаціны. Унізу малюнка лічыцца поўдзень, у версе—поўнач, направа—ўсход і налева—захад.

Вось гэтым пакуль што і закончым разважаньні, а ў наступных нумарох „Плуга“ будзем гутарыць аб другіх закранутых пытаньнях.

**Ч. Радзевіч.**

---

# Офіцыяльны аддзел.

## Аб продажы добраякаснага насеннага матар‘ялу.

У мэтах узмацненьня фактычнага кантролю за выкананьнем пастановы ЦВК БССР ад 9-IX—1923 г. аб урэгуляваньні насеннага гандлю, Народнымі Камісарыятамі Замежнага і Ўнутранага Гандлю і Земляробства БССР выдана пастанова ад 12 лютага 1927 г., апублікаваная ў № 42 „Савецкай Беларусі“.

Згодна гэтай пастановы, усе ўстановы, як дзяржаўныя, так і прыватныя, якія гандлююць насеньнем, павінны зарэгістрыравацца ў Акуговых Зямельных Аддзелах і Райвыканкомах, гледзячы па таму, дзе яны маюць пункты продажу—у акруговых гарадох, ці ў раёнах; рэгістрацыя навінна быць закочана к 1-му сакавіку 1927 году.

Гандляры насеньнем абавязаны прадаваць насеньне толькі здавальняючае наступным умовам: а) па якасьці ў адносінах чыстаты, усхожасьці і гаспадарчай годнасьці ня ніжэй устаноўленых пастановамі ЦВК і НКЗ кандыцый для насеннага матар‘алу, б) адпавядаючае тым сартам, пад назваю якіх насенны матар‘ял прадаецца.

Для фактычнага кантролю АКРЗА і Райвыканкому выдзяляюць асобныя кантрольныя Камісіі з уключэньнем у іх спэцыялістых.

За продаж недобраякаснага матар‘ялу віноўныя ў тым асобы і ўстановы прыцягваюцца да крымінальнай адказнасьці па арт. 192 і 190 Крымінальнага Кодэксу.

## Аб прыблуднай жывёле.

*(12 студзеня 1927 г.)*

У разьвіцьцё арт. 68 Грамадзянскага Кодексу Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Асоба знашоўшая і затрымаўшая прыблудную жывёлу, павінна неадкладна паведаміць аб затрыманьні гаспадару і па запатрабаваньні яго выдаць яму жывёлу. Калі-ж гаспадар невядомы, затрымаўшы павінен не пазьней як праз тры дні пасьля затрыманьня перадаць жывёлу бліжэйшаму сельскаму савету. Вінаватыя ў невыкананьні гэтага артыкулу прыцягваюцца да адказнасьці паводле арт. 185 Крымінальнага Кодэксу.

2. Старшыня таго сельскага савету, якому перададзена прыблудная жывёла, павінен, пад страхам адказнасьці паводле арт. 118 Крымінальнага Кодексу, неадкладна паведаміць аб гэтым у раённую міліцыю, якая зараз-жа пачынае шукаць гаспадара.

3. Сельскі савет перадае прынятую ад затрымальніка прыблудную жывёлу ў часовае карыстаньне камітэту сялянскага таварыства ўзаімадапамогі.

4. Камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі скарыстоўвае прынятую ад сельскага савету прыблудную жывёлу ў адпаведнасьці з сваімі мэтамі і патрэбамі. Пастановаю Камітэту прыблудная жывёла можа перадавацца ў часовае карыстаньне паасобным бяднейшым сялянскім гаспадаркам.

5. Жывёла, прынятая камітэтам сялянскага таварыства ўзаемадапамогі, корміцца за кошт самога камітэту або тэй гаспадаркі, якой жывёла перададзена ў часовае карыстаньне.

6. Прыблудныя коні і каровы могуць знаходзіцца ў часовым карыстаньні камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі два гады, а дробная жывёла—адзін год.

7. Калі на працягу часу, паказанага ў арт. 6, будзе знойдзена асоба, якая пэўна давядзе аб тым, што яна зьяўляецца гаспадаром прыблуднае жывёлы, то жывёла неадкладна аддаецца ёй праз сельскі савет, і аб тым паведамляецца ў раённую міліцыю. Калі-ж камітэт сялянскага таварыства ўзаемадапамогі адмовіцца выдаць прыблудную жывёлу гаспадару, зьявіўшамуся да зыходу тэрміну, паказанага ў артыкуле 6, то гаспадар павінен зьвярнуцца ў сельскі савет, які павінен зрабіць захады аб аддачы яму жывёлы.

8. Калі на працягу паказанага ў арт. 6 тэрміну гаспадар прыблуднае жывёлы ня будзе знойдзены, то жывёла пераходзіць ва ўласнасьць камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі. Пасьля зыходу паказанага ў арт. 6 тэрміну гаспадар губіць свае правы на жывёлу.

9. Няправільныя дзеяньні сельскага савету, сьвязаныя з нявыдачаю жывёлы гаспадару, могут быць абскарджаны ў раённы выканаўчы камітэт на працягу аднаго месяцу ад моманту адмаўленьня выдаць жывёлу.

10. Калі перадаецца прыблудная жывёла гаспадару або камітэту сялянскага таварыства ўзаемадапамогі (арт., арт. 7 і 8), то апошнія павінны сплаціць утрымоўваўшым прыблудную жывёлу выдаткі па яе ўтрыманьню. У сплату залічваецца палучаная ад жывёлы карысьць. Усе спрэчныя пытаньні аб праве ўласьці на прыблудную жывёлу і аб выдатках на яе ўтрыманьне вырашаюцца судом.

11. Гэтая пастанова пашыраецца і на заводзкую жывёлу, але заводзкая жывёла перадаецца ў часовае карыстаньне, а пасьля зыходу паказанага ў арт. 6 тэрміну ва ўласнасьць—не камітэтам сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі, а органам Народнага Камісарыяту Земляробстваа. Старшыня Савету Народных Камісараў БССР *Яз. Адамовіч.* Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў *М. Мароз.*

**Выданьне Наркамзему.**

Адк. рэд. **Зьм. Прышчэпаў.**

Рэд. кол. *Э. Русецкі, Шукевіч, А. Смоліч, Сьц. Тупяневіч.*